


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

10 ЛІПЕНЯ 1998 Г. № 28/3956 КОШТ 4 000 РУБ.








# Песня наша, Беларусь...

## Першы фестываль народнага мастацтва краіны завяршыўся гала-канцэртам лаўрэатаў



Канцэрт у сталічным Палацы спорту доўжыўся тры з ладным лішкам гадзіны. Без антракту. Пры аншлагу (хаця гэта быў ужо апошні дзень самага гучнага за ўсю гісторыю беларускай дзяржавы святкавання яе незалежнасці — нядзеля, 5 ліпеня, калі мінчукі ды госці прытаміліся ад вулічных пачастункаў ды відовішчаў). Канцэрту папярэднічалі выступленні на адкрытых пляцоўках Мінска. Яшчэ раней у Палацы мастацтваў разгарнулася II Нацыянальная выстаўка “Жывыя крыніцы”, экспазіцыю якой утварылі ўзоры традыцыйнай творчасці; беларускіх рамёстваў, сённяшняй сувенірнай вытворчасці. А пастскрыптумам першых такіх агледзінаў нашага народнага мастацтва, што праводзіліся пад назваю “Беларусь — мая песня”, станецца Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя, запланаваная на восень.

Грунтоўнае абгаварэнне праблем народнай творчасці — наперадзе. Але і сёння можна рабіць падсумоўванні-высновы.

На прэс-канферэнцыі з удзелам супрацоўнікаў Міністэрства культуры і творчых работнікаў выказвалася задавальненне самім фактам правядзення такой маштабнай культурніцкай акцыі. Яе пачаткам была праца па фарміраванні мастацкіх праграм на аснове рэгіянальнага рэпертуару, агляды творчых набыткаў на мясцовым узроўні, дзе паказаць сябе мог практычна кожны: і вясковы мастак-самавук, і ўдзельнік танцавальнай студыі, і народны пеўчы гурт. Фестываль прайшоў паўсюдна, улучыўшы ў лік удзельнікаў рабочых і служачых прадпрыемстваў розных форм уласнасці, сельскай гаспадаркі, студэнтаў і навучэнцаў, прадстаўнікоў суполак нацыянальных меншасцяў, грамадскіх арганізацый, індывідуальных выканаўцаў і калектывы з устаноў культуры, Міністэрства абароны і г. д.

Артыст — прафесійнік ён ці аматар — без публічных выступленняў проста не можа жыць. І ў тым, што фестываль “Беларусь — мая песня” даў магчымасць кожнаму хаця б разік паказацца хай сабе на маленькай — школьнай, клубнай — сцэне, - ёсць вялікі гуманістычны, духоўны сэнс.

Тое ж, што ўрэшце адбылося ў Палацы спорту, магло абяззброіць самага бурклівага скептыка.

*(Працяг на стар. 2)*

## АЛМ КОЛА ДЗЁН

***Навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя разам з бацькамі працягваюць змаганне за сваю Alma mater. Іх не задаволіў падрыхтаваны Саветам Міністраў праект рэарганізацыі ліцэя. У выніку такога "рэфармавання" ад ліцэя застанецца толькі назва. Пікеты ў абарону ліцэя праходзілі 7—9 ліпеня. Спроба знішчыць выспу беларушчыны ў рускамоўным моры сведчыць, бадай, пра тое, што стварыць нешта такое ж адметнае, як Беларускі гуманітарны ліцэй, наладзіць такім чынам канкурэнцыю і ў такім інтэлектуальным спаборніцтве перамагчы ўлады проста няздольныя. Застаецца адзіны сродак — сіла і націск. Але ці будзе мець у Беларусі перспектыву нешта расійскае, што насаджаецца гвалтам? Гэта пытанне — для расійскіх сяброў беларускай улады.***

### СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Беларусь і Летува, спадкаемцы Вялікага княства Літоўскага, кожная па-свойму адзначылі чарговую гадавіну каранацыі Міндоўга. Гэты ўладар быў першым і апошнім каралём уласна Літвы, бо пасля уніі ВКЛ і Польшчы і да скону аб'яднанай (федэратыўнай) дзяржавы яе кіраўнікі мелі тытул: "Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі". Самы дальнабачны з дзеячаў нашай старажытнай дзяржавы, Вялікі князь Вітаўт разумеў, што гэты юрыдычны нюанс (кароль у еўрапейскім разуменні вышэй за герцага, а менавіта "герцагу" адпавядае "вялікі князь") вельмі небяспечны для ягонай краіны, спрабаваў выправіць гэту недарэчнасць і прыдбаць сабе асвечаную Папам Рымскім карону, а Літве — статус каралеўства. На жаль, не здолеў. А каб Вітаўту і нашай краіне тады пашчасціла, дык, хто ведае, можа, гісторыя склалася б інакш...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Дзятлава адзначыла сваё 500-годдзе. Да свята добраўпарадкавалі цэнтральную частку мястэчка. На цэнтральны пляц апускаліся з неба парашутысты, адбыўся паказ мод. Сярод публікі быў экс-старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб, які прадстаўляў дзятлаўчан у ВС 13-га склікання.

### ШЫЛЬДА ТЫДНЯ

У Польшчы ўшанаваны дзеяч украінскага незалежніцкага руху Сямён Пятлюра. Мемарыяльная шыльда ў гонар атамана адкрыта на адной з вуліц Тарнува. У цырымоніі бралі ўдзел прадстаўнікі польскага сейма і амбасадар Украіны ў Варшаве Пятро Сардачук. У сваёй прамове ён адзначыў, што "Польшча была адзінай, хто падаў руку маладой украінскай дзяржаве ў барацьбе з агульным ворагам, якім быў бальшавізм". На жаль, Беларускай Народнай Рэспубліцы тады не дапамог ніхто.

### ДЫСКУСІЯ ТЫДНЯ

У апошнім нумары "Нашай Нівы" пад агульным загалоўкам "Нобель — Чарнобыль наадварот" змешчаны развагі Уладзіміра Арлова, Сяргея Харэўскага, Андраніка Антаняна, Зянона Пазняка, Аляксандра Лукашука і Зміцера Андросіка адносна шанцаў Беларусі ўвайсці ў XXI стагоддзе з нобелеўскім лаўрэатам. Калі такое і адбудзецца, дык, хутчэй за ўсё, праславіць такім чынам Беларусь Васіль Уладзіміравіч Быкаў. Але для гэтага патрэбна не толькі, каб пэўным чынам спрацавалі палітычны, геаграфічны ды іншыя традыцыйныя чыннікі, што ўплываюць на рашэнне шведскіх акадэмікаў, але і актыўнасць беларускага грамадства і найперш інтэлігенцыі. Пакуль такой актыўнасці не назіраецца.

### НАМЕР ТЫДНЯ

З сувязі з тым, што прэзідэнт РБ абвясціў намер правесці ў Беларусі "год Пушкіна", расійская сталіца падорыць Мінску помнік паэту. Ужо вядома, што ўстаноўлены ён будзе ў раёне гасцініцы "Беларусь", што даволі далёка ад праспекта Пушкіна. Але ў нас такая завядзёнка: вуліца Маскоўская ў адным канцы горада — станцыя метро "Маскоўская" ў другім, помнік Дзяржынскаму на праспекце Ф. Скарыны, а не на вуліцы імя галоўнага чэкіста. А вось помнік Скарыны доўга не хацелі пускаць на праспект імя Першадрукара — куды заўгодна, хоць у Чыжоўку, абы не ў цэнтр горада. Дарэчы, помніка Першадрукару ў Мінску дагэтуль няма...

Помнік Пушкіну, можа, будзе ў Мінску і не лішнім. Рэч у іншым. У стасунках паміж суверэннымі дзяржавамі існуе правіла: паставіць помнік свайму дзеячу ў чужой краіне можна толькі ў абмен на нешта аналагічнае ў сябе. Скажам, яны нам — помнік Пушкіну, мы Маскве — помнік Скарыну альбо Купалу. Тады гэта культурны абмен. А калі "вуліца з аднабаковым рухам", дык гэта нацыянальная экспансія. Каб паставіць помнік Пушкіну ў Мадрыдзе, Масква прыняла ад Мадрыда помнік Сервантэсу. Такі ж прынцып павінен дзейнічаць і зараз. Сёння ў Мінску і без таго з дзесятак вуліц імя рускіх мастакоў, столькі ж — у гонар рускіх пісьменнікаў, не ў крыўдзе на Мінгарвыканкам і руская навука. Ёсць кавярня "Арбат", кінатэатр "Масква", вуліцы Ленінградская, Валгаградская, Арбатская — спіс можна доўжыць.

А ў Маскве адзіны знак беларускасці — гэта станцыя метро ля Беларускага вакзала, аздобленая псеўдабеларускім арнаментам і скульптурай нібыта беларускіх партызан. Была калісь гасцініца "Мінск", цяпер яна называецца "На Тверской". Затое ёсць гмах гасцініцы "Украіна" з манументам Тарасу Шаўчэнку перад ім, ёсць помнік Шота Руставелі, Махатму і Індзіры Гандзі, мемарыяльная шыльда ў гонар Адама Міцкевіча, як польскага паэта. Інакш кажучы, дзеячам тых краін, якія перад Масквою не прагінаюцца, маюць свой гонар.

### КНІГА ТЫДНЯ

Першае выданне з серыі "Бібліятэка "Фрагменты" выйшла ў свет. Гэта кніга Валянціна Акудовіча "Мяне няма. Роздум на руінах чалавека". Аўтар пераканаўча даводзіць, што яго не толькі няма, але ўвогуле ніколі не было. Перспектыва "мяне не будзе" яго таксама не палохае. Валянцін Акудовіч нібыта дыскутуе з Уладзімірам Караткевічам, які свой апошні зборнік назваў "Быў. Ёсць. Буду." Не было. Няма. Не будзе. Думкі В. Акудовіча — гэта своеасаблівы адбітак дыскусіі пра Беларусь, што цягнецца не адно дзесяцігоддзе. Не было такой краіны — сцвярджаюць адны. Няма зараз такой дзяржавы — дадаюць другія. І ніколі не будзе — упэўненыя трэція. Але сам факт дыскусіі сведчыць пра адваротнае: прадмет спрэчкі быў, ёсць і не збіраецца знікаць.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

У першую нядзелю верасня на радзіме Уладзіміра Караткевіча ў старажытнай Оршы адбудзецца пятае па ліку Свята беларускага пісьменства і друку. У папярэднія гады ўрачыстасці праходзілі ў Полацку, Тураве, Навагрудку і Нясвіжы.

---

ІМПРЭЗЫ

# Міцкевіч, Манюшка, "БК"...

"Стыльна і грунтоўна", — гэтак можна казаць пра кожную імпрэзу вядомага творчага калектыву "Беларуская Капэла". Нават калі гэтая імпрэза — не чарговы фестываль, а проста "фірмовы" канцэрт. Вось такі стыльны, грунтоўны, фірмовы канцэрт зладкавала на тым тыдні "БК" пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску ды Архікатэдральнага касцёла імя Найсвяцейшай Марыі Панны (тут імпрэза і адбывалася). Праграма прысвячалася 200-годдзю Адама Міцкевіча і складалася з вакальных твораў другога нашага слыннага земляка — Станіслава Манюшкі, напісаных на вершы Паэта.

Грунтоўнае асветніцкае слова сказаў перад канцэртам спадар Адам Мальдзіс. І ягоная заўвага наконт набожнасці Манюшкі дазволіла чалавеку чуламу ўявіць, як трапятліва слухаў будучы кампазітар імшу, мабыць, у гэтым самым касцёле, што быў зусім побач з мінскім домам Манюшкаў...

У перастворaным, вернутым вернікам, храме; у перастворaных пабеларуску, вернутых да іх "першагуку", паэтычных словах; у перастворaным для класічнага аркестравага складу, вернутым у музычны ўжытак землякоў, шматаблічным "фартэпіянным падтэксце" Манюшкавых камерна-вакальных кампазіцый ажыў самабытны свет: рамантычны, аздоблены неўвядальнымі кветкамі кахання, радасці, пакут і драм.

Між тым, прагучалі толькі тры нумары: балады "Свіцязянка", "Рыбка" і раманс "Да Нёмана". Але якою ёмістай падалася праграма! Захапленне дасведчанай публікі (да якой далучыліся і цікаўныя заўсёднікі касцёла) адрасавалася ўсім стваральнікам выбітнай музычнай прэм'еры. Гэта музыканты ансамбля салістаў "Класік-Авангард" на чале з Уладзімірам Байдавым — мастацкім кіраўніком і майстрам інструментоўкі, дзякуючы якому колішні фартэпіянны акампанемент набыў уражлівае сімфанічнае гучанне, тэатральную драматургічнасць, нагадаўшы пра С. Манюшку як опернага кампазітара. Гэта і Майстар пераўвасаблення, артыстычны і псіхалагічна дакладны ў кожнай інтанацыі саліст Віктар Скорабагатаў. І Тацціяна Цыбульская, чый голас усё больш падобны да чароўнай загадкавай кветкі, што ўбіраецца ў сілу, а драматычны талент раскрываецца новымі гранямі. Гэта і паэты-перакладчыкі, адзін з якіх, Уладзімір Мархель, прысутнічаў на імпрэзе. Гэта і нястомны "Чалавек-аркестр" піяністка Ганна Каржанеўская, што працавала з салістамі — як працуе канцэртмайстар з опернымі спевакамі, рыхтуючы з імі партыю ў новым спектаклі.

Пры канцы імпрэзы мастацкі кіраўнік "БК" Віктар Скорабагатаў абвясціў час і месца новай сустрэчы з публікай. 29 ліпеня ў Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі мае адбыцца чарговы канцэрт з цыкла "Музыка Літвы і Кароны". Ён будзе прысвечаны творчасці блізкага нам Фрэдэрыка Шапэна.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: мастацкі кіраўнік ансамбля "Класік-Авангард" Уладзімір БАЙДАЎ.*

*Фота А. МАЦЮША*

---

# "Рака маленства, дзе ты..."

Нарэшце і ў нас выйшла кніжка, у якой адзін і той жа твор паэта змешчаны як у арыгінале, так і ў перакладзе некалькіх аўтараў. Выйшла яна ў выдавецтве "Беларуская навука" да 200-годдзя славутага сына беларускай зямлі Адама Міцкевіча. Называецца гэты паэтычны зборнік "Да Нёмна".

Назву гэтую даў верш А. Міцкевіча, дакладней яго санет, напісаны ўлетку 1822 года, калі паэт прадчуваў, што ў хуткім часе яму давядзецца развітацца з Радзімай. А ўжо ў час расійскага выгнання гэты твор быў далучаны аўтарам да цыкла адэскіх ці, як іх яшчэ называюць, эратычных санетаў. Яны разам з крымскімі санетамі ўвайшлі ў кнігу, выдадзеную ў 1826 годзе ў Маскве.

На беларускую мову гэты санет, у якім у вобразе прынёманскай Лауры ўгадваецца каханая Міцкевіча Марыля Верашчака, ў упершыню перакладзены Альбінам Стаповічам і апублікаваны ў "Беларускай крыніцы" 28 студзеня 1927 года.

У зборніку, выпушчаным "Беларускай навукай", гэты пераклад ідзе ўслед за арыгіналам і называецца "Нёман", а далей змешчана яшчэ дзесяць перастварэнняў твора пабеларуску, выкананых у розныя гады. Адны перакладчыкі, як Юрка Гаўрук, Міхась Дубpоўскі, Хведар Жычка, Кастусь Цвірка, Пятро Бітэль, Васіль Жуковіч, назвалі беларускамоўны варыянт санета "Над Нёманам", а Алесь Салавей, Рыгор Барадулін, Уладзімір Мархель, Яўген Міклашэўскі падаюць яго, як "Да Нёмна". Які пераклад лепшы, меркаваць чытачу. Вось як, для прыкладу, санет гучыць у перастварэнні К. Цвіркі:

*Рака маленства, дзе ты,*
*Нёман мой,*
*Чые струмені браў*
*калісьці я ў далоні?*
*Тут юнаком праз даль —*
*што мне віры і тоні! —*
*Я ўслед за марай плыў сваёю сівізной.*

*Лаура часта тут,*
*над гладдзю люстраной,*
*Любіла косы заплятаць,*
*ўквечваць скроні.*
*Яе адбітак любы сцішана ў сутонні*
*Я колькі раз муціў гарачаю слязой.*

*Мая рака, мой родны Нёман!*
*Дзе тая*
*З дзіцячых год так сэрцу*
*любая бруя?*
*Дзе шчасця слодыч, дзе вы,*
*надзеі, крозы?*

*Дзе маладосці бурнай*
*выклік нецвярозы?*
*Дзе ты, мая Лаура, дзе сяброў сям'я?..*
*Усё прайшло... Чаму ж мае*
*не пройдуць слёзы?!*

Кніжачка "Да Нёмна" атрымалася і знешне прыгожая (мастак Т. Навуменка).

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

---

# Песня наша, Беларусь...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Амфітэатр быў запоўнены публікай ці не пад самую столь. Міністр культуры А. Сасноўскі прачытаў са сцэны прывітальныя словы, якія адрасаваў лаўрэатам фестывалю прэзідэнт краіны А. Лукашэнка. Працавала тэлекамера. На жаль, не дзеля "жывой" трансляцыі. А які атрымаюцца відэазапіс, цяжка ўявіць, бо нават спанатраныя фотарэпарцёры наракалі на ўмовы асвятлення. Імпрэзу, якая мусіла зрабіцца галоўным аб'ектам "раскруткі", БТ зрабіла ахвярай рэжыму эканоміі. З чаго б гэта?

У разнастайным, дынамічным канцэрце, які рыхтавала вялікая пастановачная група, цяжка вылучыць лепшае. Ліміт часу мусіў кожную вобласць сабраць у праграму "вяршкі з вяршкоў". (Дарэчы, сталіца прыняла 2,5 тысячы ўдзельнікаў фэсту). І атрымалася жывая маляўнічая візітоўка — не раўнуючы песня, з якой паўстала аблічча роднай для ўсіх нас, розных, таленавітай, працавітай і загадкавай Беларусі.

Тут былі музыкі з пастаўскага "Паазер'я" і цыганскі квартэт з Ашмянаў, унікальны (нават паводле свайго назову!) народны ансамбль старадаўняй музыкі "Кантрданс" з Баранавіч і знакамітыя "Крупіцкія музыкі" з Міншчыны. І лідскі аркестр беларускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам бізнесоўца і дырыжора (!) А. Вялікіна — з сюітай на тэмы яўрэйскіх народных песень; і шасцікласнік з Пінска Саша Чаркас — уладальнік "неапалітанскага" голасу; і фальклорна-этнаграфічны гурт руплівых бабулек з Жабінкаўскага раёна. Былі вядомы ў эстрадным свеце Валерый Скаражонак — прадстаўнік Вілейкі ды новая "зорка" — гарадзенец Аляксандр Звяровіч. Запомніліся зычнагалосыя ўвішныя мазырскія "Сваякі", хлопцы з "Гомія", нараўлянская аўтарка-выканаўца Святлана Ярашова, дасціпныя танцоры з магілёўскай "Руні" і ні з чым (хіба толькі з сакральным шаманскім мастацтвам) не параўнаны гурт кабет з вёскі Ласі, што на Бабруйшчыне...

Дзівілі пошчакам сапраўднай чачоткі гарадзенскія "Крышталікі", пад авацыю публікі танчылі ўдзельнікі мінскага "Зубраняці" ды "Лялечкі" з Абухаўскага СДК, што на Гарадзеншчыне, цешыла вока ды вуха магілёўская "Скарыначка". Арганічна ўвайшоў у праграму і вакальна-харэаграфічны эпізод, які нагадаў пра Дзень вызвалення Беларусі, асабліва расчуліўшы нешматлікіх ужо ветэранаў мінулай вайны: гралі духавыя аркестры са Светлагорска і Жлобіна, спяваў ансамбль "Памяць сэрца" ды хор ветэранаў вайны і працы, танчылі дзеці...

А яшчэ ўразіў фінал: вялікія зводныя калектывы — хор і аркестр, два славутыя маэстра — Міхал Казінец на сцэне, Міхась Дрынеўскі на подыуме ля глядацкіх трыбун! Між імі — добрая сотня метраў... Дзяржыўравалі — вочы ў вочы. Спявалі, гралі, гучалі — як дыхалі: "Радзіма, мая дарагая..." І публіка ўстала, вітаючы галоўную песню краіны.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымках: падчас гала-канцэрта; у рытме сталічных вуліц; "Зажынкі" Кацярыны Агейчык з Петрыкаўшчыны.*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

СЕМІНАРЫ

# І вучоба, і святкаванне

Рэспубліканскі семінар-практыкум для дырэктараў паркаў адпачынку пачынаўся ў Беларускім інстытуце праблем культуры (суарганізатары — Міністэрства культуры і адпаведнае ўпраўленне аблвыканкама). Яго задачай было ўдасканаленне зместу, формаў і метадаў дзейнасці дзяржаўных паркаў у сучасных умовах.

На жаль, "чыстых" спецыялістаў па гэтай галіне ў Беларусі няма, таму лекцыі прысвячаліся агульным — і таксама патрэбным — пытанням. Начальнік Упраўлення ўстаноў культуры згаданага міністэрства Т. Стружэцкі зрабіў аналіз стану паркаў.

Ужо ў першы дзень семінара абазначылася галоўная праблема — стан матэрыяльна-тэхнічнай базы нашых зялёных аазісаў (а іх у рэспубліцы 24). Больш-менш нармальна пачуваюць сябе толькі сталічныя паркі — Чэлюскінцаў і Горкага, куды "семінарысты" завіталі на другі дзень вучобы. Там досыць шырокі пералік платных паслуг, а галоўнае — перададзена ў карыстанне зямля, што дае магчымасць адчуваць сябе гаспадарамі і крыху зарабляць арэндай.

Папулярнасцю карыстаюцца ў дзяцей так званыя мяккія атракцыёны. Дарэчы, прадстаўнікі арэндных прадпрыемстваў МПА "Цэнтр" і "Белатракцыён" таксама былі запрошаны на семінар і прынялі ў ім актыўны ўдзел. Кіраўнікі паркаў прасілі іх распрацаваць танныя перасоўныя ўстаноўкі, якія б маглі пераязджаць з горада ў горад.

Па дарозе ў Барысаў, дзе гарадскі парк спраўляў юбілей — 70 год, заехалі ў самы малады Жодзінскі парк. Што ж да Барысаўскага, то ажно 32 гады ўзначальвае яго Якаў Ісакавіч Бляхер — адданы сваёй справе чалавек, энтузіяст. На плошчы ў шэсць гектараў размясціліся і спраўна дзейнічаюць 11 атракцыёнаў, зімні клуб, 2 кафэ, саўна з трэнажорамі і традыцыйная танцпляцоўка для моладзі.

На "круглым стале" ўдзельнікі абмяняліся меркаваннямі і ўражаннямі, згадалі адну з ранейшых сустрэч — 93-га года, пасля якой з'явіўся важны дакумент пад назвай "Агульныя прынцыпы дзейнасці паркаў". І хоць дакумент гэты спрыяў рабоце паркавых культурных устаноў, але ж час патрабуе карэктыў і дапрацовак. Па прапанове аблвыканкама паркі ўзяты гарадамі на частковае фінансаванне. Звязана гэта з "мёртвым сезонам", бо работнікі ў парках пастаянныя і ў зімовую пару іх неабходна падтрымліваць зарплатамі.

Завяршыўся семінар-практыкум удзелам у святкаванні 70-годдзя парку. Адбылося тэатральнае прадстаўленне і музычны марафон "Настальжы", выступалі папулярныя "Траецкія музыкі", а на дзіцячай пляцоўцы ўсіх смяшыла група "Жарт" з Мінска (кіраўнік Г. Сушыцкая). Забавы для дарослых ладзіў сам дырэктар Барысаўскага парку, так што маладзейшыя маглі павучыцца. На тое і практыкум...

**Г. К.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## Клермон-Феран сустракае сяброў

Днямі ў пабраціме Гомеля французскім горадзе Клермон-Феране выступіць з канцэртамі народная харавая капэла Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці абласнога ўпраўлення адукацыі, мастацкім кіраўніком і дырыжорам якой з'яўляецца заслужаны работнік культуры Беларусі Уладзімір Курылін. Гэты творчы калектыў на працягу многіх гадоў з'яўляецца пераможцам шматлікіх міжнародных, усесаюзных конкурсаў і фестываляў. Летась ён удастоены першай прэміі на рэспубліканскім фестывалі "Пеўчае поле". Сёлета атрымаў дыплом першай ступені за перамогу ў рэспубліканскім фестывалі "Беларусь — мая песня".

У Клермон-Феране артысты з берагоў Сожа ўдзельнічаюць у міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі. Яны запрошаны мэрыяй горада і кіраўніцтвам мясцовай кансерваторыі імя Шабрые. Дарэчы, харысты гэтай кансерваторыі летась з поспехам выступалі перад гамяльчанамі.

## Вернісаж знакамітых мастакоў

Трывалыя творчыя сувязі ўсталяваліся паміж супрацоўнікамі Гомельскага і Мазырскага краязнаўчых музеяў. Яны робяць адну высакародную справу — прапагандуюць беларускае выяўленчае мастацтва.

Зараз у Мазырскім музеі экспануюцца творы, якія прадставілі калегі з Гомеля. Гэта жывапісныя работы знакамітых мастакоў, заслужаных дзеячаў мастацтва Беларусі Б. Звінагродскага, Д. Алейніка, М. Казакевіча, а таксама В. Казачэнкі, Р. Ландарскага, У. Рыкаліна, С. Дзьяканава, М. Андыка, іншых майстроў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Вучылішча святкуе юбілей

Свой 70-гадовы юбілей Магілёўскае вучылішча культуры будзе святкаваць увесь год. На днях выкладчыкі і навучэнцы адкрылі ў абласным аддзяленні Саюза мастакоў выставу сваіх лепшых твораў. Сярод работ навучэнцаў — вышыванкі, пано, кераміка, габелены, жывапіс. Свае творы экспануюць і вядомыя ў Магілёве мастакі, большасць з якіх выкладаюць у вучылішчы. Карціны выставілі Барыс Первунінскіх, Марыя Таболіч, Фёдар Кісялёў, а кампазіцыі з керамікі — Уладзімір Пахоўцаў.

## Фоталетапіс Крычаўшчыны

Работы фотамастака з Крычава Валерыя Бысава вядомы не толькі ў нашай рэспубліцы. Ён зафіксаваў для гісторыі шмат падзей, якія адбываліся на Крычаўшчыне на працягу трыццаці год. Некалькі ягоных здымкаў увайшлі ў фотаальбом "Вечныя бярозы", а таксама ў кнігу "След чёрного ветра", якая была выдадзена ў Японіі і Бразіліі.

Зараз 28 каляровых і чорна-белых фатаграфій В. Бысава можна ўбачыць на персанальнай выставе, якая праходзіць у мясцовым краязнаўчым музеі.

## На тэму экалогіі

У Магілёве на базе мясцовай станцыі юных натуралістаў праходзіў конкурс дзіцячых малюнкаў на экалагічную тэму. Арганізатарам яго стаў гарадскі савет Беларускага таварыства аховы прыроды. На конкурс было прадстаўлена больш за 300 работ, створаных дзецьмі з 30 школ, пяці пазашкольных устаноў і Магілёўскага тэхнічнага ліцэя пры машынабудаўнічым інстытуце. Яны з дапамогай фарбаў і алоўкаў расказалі аб прыгажосці роднага горада і яго наваколля. Дыпломы першай ступені атрымалі Уладзімір Башарымаў, Вольга Карабонава, Ілля Гулевіч.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТ...*

## Купалле адмяніць нельга

Гэтае найпрыгажэйшае летняе каляндарна-абрадавае свята ў гарадку Жабінка, што непадалёк ад Брэста, пачалося з казусу. Тым, хто сабраўся на маляўнічым беразе аднайменнай рачулкі, гучны голас з дынаміка аб'явіў, што Купалле не будзе, бо будзе... дождж. Аднак мала хто збаяўся сумнага "прагнозу". Людзі палілі купальскія вогнішчы, спявалі песні, частаваліся тым, што прыхапілі з дому (гандлёвых палатак, як і тэатралізаванага відовішча, не было). Весяліліся, найперш моладзь, да глыбокай начы. Праўда, быў і дождж, але толькі праз гадзіны дзве пасля безапеляцыйнай аб'явы і ўсяго на хвілін дзесяць. Так што "спісаць" на яго арганізацыйныя няўвязкі, як гэта здаралася ў ранейшыя часы, не ўдалося. Затое стала вядома, каму належала ініцыятыва "адмены" Купалля — намесніцы старшыні Жабінкаўскага райвыканкама камуністцы Святлане Майсейчык.

## Тэатр не старэе

Ужо 35 гадоў радуе палескага гледача сваімі відовішчнымі спектаклямі народны тэатр г. Іванава. Аснову яго рэпертуару складаюць творы вядомых нашых драматургаў У. Галубка, М. Чарота, А. Макаёнка, М. Матукоўскага і іншых. Нямала увагі ўдзяляюць артысты-аматары і нацыянальнаму фальклору. 35-годдзе тэатр адзначыў ярказ прэм'ерным спектаклем "Новы чорт", у якім перапляліся шматлікія жанры вуснай народнай творчасці: казкі, паданні, песні, прыказкі і прымаўкі, жарты. Паставіла спектакль Таццяна Папко, для якой ён з'явіўся рэжысёрскім дэбютам.

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБСК...*

## Шагалаўскія дні

У восьмы раз у дзень нараджэння вялікага майстра (6 ліпеня) прайшлі міжнародныя Шагалаўскія чытанні з удзелам расійскіх і беларускіх мастацтвазнаўцаў. Каля Дома-музея на Пакроўскай сабраліся ўдзельнікі Шагалаўскіх дзён на адкрыццё помніка "Скрыпка Шагала" мясцовага скульптара Валерыя Магучага. А ўвечары ў садзе каля Дома-музея праходзіла свята "У гасцях у Марка і Бэлы" з удзелам прафесійных і самадзейных калектываў, паэтаў і мастакоў, з традыцыйным чаяпіццем. Як адзначыла дырэктар музея Шагала Л. Хмяльніцкая, з гэтага года Шагалаўскія дні будуць суправаджаць дзіцячыя мастацкія пленэры. Лепшыя работы юных прыхільнікаў вялікага майстра перададуцца ў музей.

**Святлана ГУК**

ВЕЧАРЫНЫ

# А ўвосень "Вясна" вернецца?

Адгарнуўшы лімаўскую падшыўку трошкі назад, у сакавік, пільны чытач знойдзе на старонках тыднёвіка шэраг публікацый пра "Франка-беларускую музычную вясну". І каб не паўтарацць ужо вядомую інфармацыю, проста паведамім: нядаўна тая акцыя мела працяг.

Зноў прыехалі ў Мінск два Жэромы — віяланчэліст Перно ды піяніст Дзюкро. Гралі ў вялікай зале сталічнай філармоніі. А за некалькі дзён да іхняга канцэрта быў цудоўны кранальны вечар у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы. Тут выступалі выхаванцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, вучні знанага педагога, заслужанага артыста Уладзіміра Перліна, юныя віяланчэлісты — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Да ўжо добра знаёмых публіцы і прыкметна пасталелых пасля вандроўкі ў Францыю Георгія Анішчанкі, Аляксея Кісялёва ды Уладзіміра Сінькевіча (выступалі ў суправаджэнні піяністкі Любові Пятровай) далучыўся маленькі Саша Дулаў — пераможца сёлетняга конкурсу "Музыка надзеі", які граў у суправаджэнні свайго вядомага бацькі, лаўрэата міжнародных конкурсаў Уладзіміра Дулава.

Рэпертуар быў, параўнальна з "Франка-беларускай музычнай вясной", абноўлены. Складаны, разнастайны, па-канцэртнаму эфектны. Так што публіка не толькі не стамілася ад працяглага спатканння з адным сур'ёзным інструментам, але нават "завялася". Гэтаму, вядома ж, спрыяў і жывы каментарый педагога — У. Перліна, які вёў праграму. Гэтаму паспрыяла і шчырае абаяльнае гранне Жэрома Перно, які далучыўся да юных канцэртантаў.

У класе У. Перліна французскага калегу ўжо лічаць не госцем, а сваім — як старэйшага брата. Але не толькі "цэхавае сваяцтва" прыцягвае ў Мінск спадара Перно. Ёсць яшчэ надзвычай гарачая ўпраўе свайго захаплення публіка. Яе шчыраць, яе цікавасць, што напоўніцу адчулі французскія музыканты, не дазваляюць ім развітвацца з Мінскам надоўга. Таму два Жэромы абяцаюць зноў прыехаць да нас увосень і такім чынам прадоўжыць гэты незабыўны сезон — "Франка-беларускую музычную вясну".

**С. Б.**



*На здымку: Жэром ПЕРНО з юнымі беларускімі віяланчэлістамі Г. АНІШЧАНКАМ, А. КІСЯЛЁВЫМ, У. СІНЬКЕВІЧАМ.*

*Фота К. ДРОБАВА*

СУСТРЭЧЫ

# Па рахунку праўды

Сталічны кінатэатр "Змена" — зусёды ўважлівы да беларускай літаратуры, да нацыянальнага прыгожага пісьменства. Мінскі глядач (безумоўна, зацікаўлены, бо прымусам сёння ў тэатр нікога не загоніш) ужо ведае, дзе можна паглядзець беларускае дакументальнае кіно. І дзе — можна сустрэцца з нашымі пісьменнікамі, якія з'яўляюцца ці то аўтарамі, ці то героямі дакументальных фільмаў.

На адну з апошніх сустрэч з гледачамі "Змены", а значыць і з беларускімі чытачамі прыйшла Святлана Алексіевіч. Пра што гаварыла пісьменніца, чые кнігі выдаюцца ў многіх краінах свету? Найперш — пра тое, што трэба цаніць жыццё. У нас часу для жыцця зусім няшмат. Зараз асабліва вострa ў літаратуры, у мастацтве стаіць праблема асобы і ідэй. Што да нацыянальнай ідэі, то, на думку С. Алексіевіч, мы афармляем яе, на жаль, у абгортку пачатку стагоддзя. Тое, што робіць у літаратуры С. Алексіевіч, народжана яе жаданнем асэнсаваць час. Так, займаючыся дакументалістыкай, мастацтвам, якое "валяецца на вуліцы", пісьменніца таленавіта і востра, па самым вялікім рахунку праўды гаворыць пра набалелае, высвечвае цемру, у якой мы жывём не адно дзесяцігоддзе і з якой усё аніяк не выбавімся.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

РЭЗАНАНС

# А пакуль — трывожна...

1 мая "ЛіМ" змясціў гутарку са Станіславам Чарняўскім — майстрам, які "даглядае" галоўны канцэртны арган краіны. Мінула 35 гадоў, як гэты цудоўны інструмент быў устаноўлены ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, і сёння стан яго "здароўя" выклікае трывогу. Патрабуецца неадкладны рамонт. Але, як вынікае з публікацыі, справа ўскладняецца грашовымі праблемамі.

Рамонт сталічнага аргана — клопат дзяржаўны. Так падумалі мы, накіроўваючы тую публікацыю на рэагаванне ў Міністэрства культуры. І вось атрымалі адказ, падпісаны першым намеснікам міністра культуры краіны У. Рылаткам.

Гутарка, змешчаная на старонках "ЛіМа", аказалася надзвычай актуальная і ў маштабе дзяржаўным, бо, як вынікае з адказу, "праблемы, паднятыя ў публікацыі "А майстру — трывожна..." А. Мільто ("ЛіМ" за 1. 05.98 г.), ужо з пачатку 1998 года знаходзяцца пад непасрэднай увагай Міністэрства культуры". Мы даведаліся таксама, што "на сённяшні дзень сумесна з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй амаль завершана праграма комплексу пытанняў, звязаных з рамонтам аргана — складзена неабходная тэхнічная і фінансавая дакументацыя, вызначаны крыніцы фінансавання. Пасля завяршэння падрыхтоўчых работ Міністэрства культуры выдзеліць неабходныя сродкі на вышэйзначаныя мэты".

Вось такі лаканічны ліст. Калі пачнецца рамонт, як адаб'ецца ён на рэжыме працы філарманічнай залы, ці будуць запрошаны майстры-спецыялісты з-за мяжы, колькі прыкладна будзе каштаваць "лячэнне" аргана? Мы ўсё ж спадзяёмся з часам здабыць канкрэтны адказ на кожнае пытанне. А пакуль за лёс інструмента па-ранейшаму трывожна...

**Аддзел музыкі "ЛіМа"**

## І раскрылася "душа голасу"...

**Апошнім часам не шмат маладых "зорак" запальвалася на нашым оперным небасхіле гэтак ярка і ўпэўнена... Так падумалася пасля канцэрта ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Выступалі выпускнікі Беларускай акадэміі музыкі — Ірына Радчанка і Уладзімір Мароз. Першы сольны канцэрт — і адразу вылучэнне абодвух выканаўцаў на ганаровую прэмію камсамола Беларусі. Згадзіцеся, такое здараецца не часта!**

**Паспрабуем уявіць сабе атмасферу таго вечара.**

**Пакуль маладыя спевакі рыхтаваліся за кулісамі, у зале хвалявалася перад канцэртам і не магла стрымаць радасці пасля народная артыстка СССР Тамара Мікалаеўна Ніжнікава. Ірына Радчанка ейная вучаніца, так што, можна сказаць, тое выступленне сталася экзаменам перад публікай і для прафесара, і для студэнткі.**

**З цікавасцю слухалі канцэрт кампазітар Ігар Лучанок і спявак Іван Краснадубскі. Нямала цёплых слоў знайшлі яны для маладых выканаўцаў пры канцы вечара.**

**І слушна, бо Ірына ды Уладзімір паказалі выдатнае валоданне голасам, артыстызм, прадставілі разнастайны рэпертуар. Захопленая публіка адгукалася на выкананне шчырымі "Брава!"**

**Гучалі оперныя арыі, рамансавая лірыка рускіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў, італьянскія народныя песні... А на заканчэнне, як падарунак, удзельнікі з натхненнем праспявалі знакаміты дуэт з аперэты І. Кальмана "Сільва".**

**Можна сказаць, што Ірына і Уладзімір на роўных цудоўна выканалі оперныя арыі, а вось у выкананні камернага рэпертуару выявілася рознасць артыстычных індывідуальнасцяў і густаў. Калі Ірына Радчанка паказала амаль філіграннае майстэрства ў выкананні рускіх рамансаў (успамінаўся нават творчасць Абухавай), дык Уладзіміру Марозу больш удаліся песні італьянскіх кампазітараў, дзе яго голас чараваў бляскам.**

**Дарэчы, голас У. Мароза (клас прафесара А. Генералава) — моцны барытон з яркім насычаным гучаннем. Добрая знешнасць, уменне трымацца перад публікай, цікавая трактоўка твораў, — усё гэта дапаможа яму заняць адметнае месца ў беларускай музычнай культуры.**

**Ірына Радчанка — уладальніца рэдкага па прыгажосці лірыка-драматычнага сапрана. Нездарма знаўцы кажуць: "Тэмбр — гэта душа голасу". Калі слухаеш маладую артыстку, яшчэ раз упэўніваешся ў слушнасці гэтага выказвання.**

**Натхнёнасцю і цеплынёй пазначаны ў яе кожны твор. А калі да гэтага дадаць тонкае майстэрства фразіроўкі, якім і не ўсе сталыя спевакі добра валодаюць, прыгожую знешнасць і яркі выбуховы тэмперамент... Так і хочацца хутчэй пачуць на сцэне яе страсную Тоску, яркую Сільву, паэтычную Наташу!**

**Застаецца толькі пажадаць, каб удзельнікі гэтага канцэрта не страцілі сваіх вартасцяў, каб набылі іх больш. Ведама, лёс артыста залежыць ад многіх умоў. Але ж так хочацца, каб нашы маладыя "зоркі" заззялі на поўную сілу, каб іх ацанілі на роднай зямлі.**

**Вольга ВЯЛЬЦАВА**

## Помнік Ларысе Геніюш — Гудзевічы ці Зэльва?

**Прачытаўшы артыкул у газеце "Наша слова", я правяла апытанне сярод гродзенцаў, якія ведалі паэтку Ларысу Геніюш. Усе прытрымліваюцца думкі, што бюст Ларысе Геніюш варта паставіць у вёсцы Гудзевічы каля музея Алеся Белакоза. У гэтай вёсцы спачываюць продкі паэткі. Тут у царкве памінаюць у малітвах род Міклашэвічаў, бо яе дзед быў фундатарам царквы. Пра Гудзевічы паэтка напісала свае найлепшыя вершы.**

**У Гудзевіцкім музеі была зроблена экспазіцыя творчасці Ларысы Геніюш пры яе жыцці. Тут яе паважалі і любілі. А ў Зэльве паэтка жыла, як у зоне, за ёй толькі сачылі і інфармавалі райкам, хто да яе прыязджае ды пра што размаўляе.**

**Ды і бюст, які стварылі Белы-Чарняўскі, добра будзе пасаваць да вясковага гудзевіцкага пейзажу.**

**Алена ГАЙКО**

ПОГЛЯД

***Спадзяюся, што традыцыйны пачатак "у пошуках ісціны і свайго шляху" і нетрадыцыйны канец у стылі "постмадэрновых літаратурных гульняў" знойдзе водгук у чытачоў. Таму што чыстых "гульняў" тут якраз і няшмат, а больш уласнага духоўнага досведу і чыста жыццёвых назіранняў. Як бы ні было цяжка і тлумна ў сённяшнім парадаксальным кактэйлі з рэшткаў камунізму і хрысціянства, палітычных містэрый і апакаліптычных падзей, трэба шукаць хоць нейкую логіку, свой пункт гледжання і апору ва ўсім гэтым "без-абраззі". І не толькі шукаць, а — будаваць, ствараць свой "крышталь ісціны".***

**АД АЎТАРА**

Фільм "Ісус", створаны "Кампус Крусэйд рор Крайст" і шырока разрэкламаваны праз пратэстанцкія суполкі, за некалькі год абышоў увесь свет, сабраўшы паўмільярдную аўдыторыю. Вось і Беларусь праз дзяржаўнае БТ у канцы мінулага года нарэшце далучылася да амерыканскай кінаевангелізацыі, прычым (яшчэ адзін сюрпрыз) — праз беларускамоўны пераклад.

Тэкст — чыстае і непарушнае Слова Божае. Яго можна было вучыць, прапагандаваць, у рэдкіх выпадках каментаваць або тлумачыць. Усе ж візуальныя сродкі былі другаснымі, а часам увогуле забараняліся. Можна сказаць, што тэкст быў не столькі формай, колькі сутнасцю, стрыжнем хрысціянства.

І вось па іроніі гісторыі (ці закона?) пратэстанцтва, якое дабівалася абсалютызацыі

Я не ўпэўнены, што "евангелічнае кіно" сапраўды выратуе хрысціянства ад тых незваротных гістарычных працэсаў, што адбываюцца паўсюдна (прынамсі, у нашай краіне гэта немагчыма), але фільм "Ісус" у гэтым шэрагу, тым не менш — падзея! Гістарычны, высокамастацкі, вучэбна-ілюстрацыйны — шмат іншых эпітэтаў можна адрасаваць яму, і усе ў пэўнай меры будуць справядлівыя. Аднак нават такая маштабная і высокапрафесійная карціна не можа сёння задаволіць усіх, бо колькасць меркаванняў пра Хрыста, як і плыняў у сучасным хрысціянстве, значна большая, чым эпітэтаў да самага геніяльнага фільма. Колькі людзей — столькі памылак, але права на іх маюць усе. А што будзе, калі сабраць іх да кучы? Вось я і вырашыў выправіць гэты недахоп, зірнуўшы на праблему з розных бакоў, а дапамог мне ў гэтым метад так званага "самаінтэрв'ю", практыкуемы ў часопісе "Крыніца". І так — "Калі б я быў..."

# "Евангелічнае кіно" і артадоксія

### СПРОБА ПОСТХРЫСЦІЯНСКАГА АНАЛІЗУ

Першае ўражанне было няпэўным, бо тэкст існаваў неяк паралельна, хоць і сінхронна экранным дзеям, як быццам бы чытаўся дыктарамі, а не праважываўся самімі героямі. Спачатку гэта можна было прыняць за недахоп перакладу ці недасканаласць дубляжу, але потым стала зразумела, што ў тым і ёсць задача ці дакладней — накананаванне самога фільма. Бо тое, чаго хацелі аўтары "Ісуса", зрабіць немагчыма ў прынцыпе. Тут мала спалучыць прыёмы сучаснага ігравога кіно і скамянелую глыбіню біблейскіх метафар, музейны этнаграфізм і вострую псіхалагічнасць, высокую філасофію і дыдактычную ілюстрацыю; трэба яшчэ захаваць сакральную чысціню і недатыкальнасць "божага сцэнарыя" (у дадзеным выпадку — Евангелля ад Лукі). Цяжар тысячагадовых ідэйных і мастацкіх стэрэатыпаў, гіпертрафіраваныя чаканні вернікаў, звышадказнасць і творчая заняволенасць аўтараў не маглі не адбіцца на выніках работы, якая не стала вялікай падзеяй ні ў свеце кіно, ні ў духоўным жыцці хрысціян.

Апошні факт можна патлумачыць і тым, што любое "евангелічнае кіно" парушае святое хрысціянскае табу — унікальнасці Хрыста, немагчымасці "паказаць", а тым больш паўтарыць яго ны шлях і ягоную ахвяру. Не стаў выключэннем і гэты фільм — дарагі, прафесійны, навукова выверany і максімальна набліжаны да той эпохі. Бо як нельга двойчы ўвайсці ў адну раку, так нельга прадэманстраваць "жывога Хрыста", не кінуўшы цень сумнення і крытычнага аналізу на сапраўднага, "аўтэнтычнага" Сына Божага. Калі б нават Брайн Дзікан, сыграўшы Ісуса, не проста спыніў сваю артыстычную кар'еру (як было дамоўлена перад здымкамі), а нават быў сапраўды распяты і ў пакутах памёр на крыжы, то ўсё роўна ён застаўся б простым брытанскім акцёрам, імітатарам ці шчырым паслядоўнікам Хрыста, але сурагатам і падманным сімвалам веры для хрысціян.

Бацькі хрысціянства прадбачылі разбуральную небяспеку падобных ілюстрацый, а таму асновай веры лічылі толькі кананічны Слова Божага, спрычынілася да ягонае дэсакралізацыі. Адзінае, непарушнае, маладаступнае Слова (у лацінскай, грэчаскай, царкоўнаславянскай версіі) спачатку было "прывалізавана" асобнымі народамі, а потым увогуле стала даступна кожнаму жадаючаму ў любой мове, любым месцы і любы час. Так яно страціла старажытную таямнічасць, святасць, містычнасць ды іншыя атрыбуты сакральнасці.

Вядучую ролю ў гэтым за апошнія сто год адыграў якраз амерыканскі вопыт, прагматызм і дэмакратычнасць каторага ў рэлігійным рэчышчы ўсім вядомыя. Тыповая амерыканская сітуацыя: абстрактны "нябесны мільён Хрыста" паспяхова разменьваецца на асобныя "евангельскія долары і цэнты", "Слова Божае" становіцца часткай побыту і хатняга чытання. І вось дзіва — ніякага дэфіцыту: тае "духоўнае валюты" хапае ўсім жадаючым. Можа ўзнікнуць пытанне: "А ці не занадта дзелавы падыход да такой далікатнай сферы, як рэлігія?" Але такое пытанне можа ўзнікнуць толькі ў краіне праваслаўнага атэізму, дзе пануючая рэлігія даўно заняла месца ў дзяржаўнай іерархіі, а ўспамін пра "высокую духоўнасць" — толькі няшчырая поза з нагоды афіцыйных урачыстасцяў і даніна нейкай даўно забытай традыцыі. Ва ўсім жа свеце адказ просты: "Добрае тое, што лепшае, а лепшае тое, што застаецца жыць". А хрысціянства застаецца жыць і рэальна дзейнічаць не на 1/6 часткі сушы, а якраз у той самай прагматычнай, дзелавой Амерыцы, якая працягвае шукаць новыя спосабы прадоўжыць жыццё "веры ў Збавіцеля". У гэтым шэрагу кінахрысціяніяда — натуральны працяг лініі на "заземленне" ды асучасненне вучэння Хрыста, шлях да ягонага выжывання ў эпоху "паміраючага Тэксту" і наступлення віртуальнай культуры. У іншым выпадку (што назіраецца ў нас) хрысціянства выціскаецца ў маргінальныя вобласці грамадскай свядомасці, губляючы ўплыў на мараль і духоўнае жыццё людзей. А калі і застаецца, то як дэкаратыўная аблямоўка (і то неабавязковая) у рэдкіх біяграфічных эпізодах — хрэсьбіны, хаўтуры, вянчанне...

...Калі б я быў праваслаўным іерархам, то строга забараніў г. зн. "евангельскае кіно", бо яно парушае артадаксальныя застої Нашае Царквы і нясе схізматычны тлум у галовы паствы.

...Калі б я быў Папам Рымскім, то спачатку б выдаў энцыкліку "Сусветная Царква і пратэстанцка-ерэтычнае кіно: спроба анафемы і дыялогу", а потым напісаў кнігу "Ісус Хрыстос пра кінамастацтва: бяседы і перспектывы".

...Калі б я быў няверуючым рэжысёрам, то адразу б падаў заяўку на "Беларусьфільм" і ў адміністрацыю прэзідэнта на стопрацэнтны шэдэўр "Хрыстос прызямліўся і ў Шклове", а калі б быў веручым, то ніколі б не браўся за евангельскія экранізацыі — занадта сумнiўная справа.

...Калі б я быў амерыканскім мільянерам, то купіў бы аўтарскія правы на ўсе сюжэты Новага і Старога Запавету і стварыў суперсерыял: "Прыгоды св. Паўлы", "Зыход апостала Пётры", "Выкрыццё св. Яна", працягі — "Ісус-2, ці Хрыстос у Новым Ерусаліме", "Ісус-3, ці Хрыстос пасля 33-га года" і г.д. Вельмі цікавай магла б быць мультыплікацыя і камп'ютэрная графіка ў дэманстрацыі цудаў, апакаліптычных жахаў або метамарфозаў з серыялу "Перастварэнне свету".

...Калі б я быў простай глядачкай з пасёлка Саглассе Бяльніцкага раёна, то сказаў бы: "Ну, гэта ня вельмі інцярэснае кіно. Вось быў хвільм пра Кліяпатру — то дужа красівая карціна. А пяюць лепш усё ж у індзійскім кіне... А Ісус? Не, мужчына, канешне, відны, самастаяцельны, але ж кіно..."

...Калі б я быў простым постсавецкім інтэлігентам, то сказаў бы: "Усё гэта лухта і пустое надуваецельства! А што да гэтага фільма пра Хрыста, то каўбасы ад яго не паболела. А каму трэба такое кіно?"

... Калі б я быў... А сапраўды — хто ж я ёсць?

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

УГОДКІ

# І быў у нас здаўна універсітэт...

Падзея, пра якую пойдзе ніжэй гаворка, вартая не толькі таго, каб згадаць яе. Яна дае добрую падставу і для пэўных развағ.

420 гадоў таму, 7 ліпеня 1578 года, кароль Стэфан Баторый выдаў прывілей, паводле якога заснаваны езуітамі васьмю гадамі раней калегіум ператвараўся ў Віленскую езуіцкую акадэмію. Яна, па сутнасці, стала правобразам універсітэта, бо ёй надавалася права прысвойваць вучоныя ступені. Афіцыйна ж ва універсітэт яна ператворыцца ў 1803 годзе, паспеўшы пабыць з 1781 года яшчэ й Галоўнай школай Вялікага княства Літоўскага. Тым самым гаворка ідзе і аб найстаражытнай нашай навучальнай установе. А нам жа доўга даводзілі, што магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю ў нас з'явілася толькі пасля Кастрычніка. І пры гэтым "забываўся" не толькі Віленскі універсітэт, а і Гора-горацкі інстытут.

Ды — пра саму акадэмію. Першым рэктарам яе стаў вядомы ідэолаг Контррэфармацыі ў Польшчы П. Скарга. На двух факультэтах — філасофскім і тэалагічным — чыталіся лекцыі па ўсіх гуманітарных і прыродазнаўчых навуках таго часу, а ў выніку студэнты-філосафы маглі пазнаёміцца з дасягненнямі фізікі, матэматыкі, метафізікі, вывучалі логіку, рыторыку, паэтыку, геаграфію. Вялікая ўвага надавалася мовам. Са старажытных — грэчаскай, лацінi, яўрэйскай, з сучасных — нямецкай і французскай. Тыя ж, хто абраў сваёй прафесіяй тэалогію, авалодвалі свяшчэнным пісаннем, кананічным правам, казуістыкай і асабліва шырока вывучалі саму тэалогію — палемічную, маральную, схаластычную.

І што б, вы думалі, аб'ядноўвала студэнтаў абодвух факультэтаў?! Ды беларуская мова, якую яны вывучалі ў абавязковым парадку.

У акадэміі, кажучы сённяшнімі словамі, было шмат спонсараў-фундатараў. Яе падтрымлівалі каталіцкае духавенства, магнаты, багатая шляхта. Красамоўны факт: М. Радзівіл Сіротка ў 1585 годзе перадаў гэтай навучальнай установе друкарню свайго бацькі, якую прывёз з Брэста. Не забыўся пра акадэмію і знакаміты беларускі дзяржаўны дзеяч Л. Сапега: акадэмічная бібліятэка папоўнілася яго клопатамі шматлікімі рэдкімі выданнямі. Пазней Л. Сапега паклапаціўся, каб быў адкрыты яшчэ адзін факультэт — юрыдычны, на ўтрыманне на ім чатырох прафесараў-юрыстаў ахвяраваў 12 500 злотых.

Сярод найбольш вядомых выпускнікоў акадэміі — Мялецій Смотрыцкі, Сімяон Полацкі, К. Сарбеўскі і іншыя. Усяго ж толькі з 1583 па 1781 год выпускнікам было прысвоена каля 4076 навуковых ступеняў, сярод якіх 3510 па філасофіі.

А сваю дзейнасць акадэмія спыніла ў сувязі з роспускам ордэна езуітаў. Тады яна перайшла пад апеку Адукацыйнай камісіі, якая і ператварыла акадэмію ў вышэйшую навучальную ўстанову новага тыпу. Куратарам Галоўнай школы з'яўляўся вядомы беларускі дзеяч І. Храптовіч, а рэктарам прызначылі матэматыка і астранома М. Пачобут-Адляніцкага. На гэтай пасадзе ён знаходзіўся 20 гадоў. Менавіта пры М. Пачобут-Адляніцкім навучанне набыло свецкі характар: працавалі маральны і фізічны факультэты, а з пераводам з Гародні і далучэннем медыцынскай школы — і медыцынскі.

Далейшыя структурныя змены адбыліся пасля 2-га і 3-га падзелаў Рэчы Паспалітай, калі ў 1796 годзе гэтая вышэйшая навучальная ўстанова стала падпарадкоўвацца расійскаму ўраду і атрымала назву Галоўнай Віленскай школы, а ў 1803 годзе была рэарганізавана ў Віленскі універсітэт з чатырма факультэтамі: маральных і палітычных навук, фізіка-матэматычны, медыцынскі, літаратурны і вольных мастацтваў.

Тым самым пачалася новая старонка ў гісторыі вышэйшай адукацыі на Беларусі і ў Літве...

**Кастусь ЛЯВОНЧЫК**

# Зацемкі з левай кішэні

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

●

Трэба трымацца ўбаку ад таго, што ў любы момант можа ўпасці каменем на галаву.

Але так жывучы, можна ўвогуле апынуцца на задворках грамадства. Асабліва ў нас і ў сённяшні час менавіта...

●

Карла Маркса хавалі восем чалавек, калі ўлічваць двух далакопаў. Мне хапіла б і паловы: жонкі, дачкі і тых двух, вышэй згаданых... Смерць — не народзіны, калі на чалавека большае, а якраз наадварот.

●

Смерць — спрадвечная тэма высокага мастацтва. Яна — геніяльная, бо ўсё — ад смерці...

І да ўсяго бессмяротнага яна спрычынена.

●

Сыс прасіў пяць тысяч рублёў на хлеб. Грошы былі, але не даў. З прынцыпу...

Грашыма хлеб *не даецца.*

●

У метро паклаў тысячу рублёў у вялікі футарал студэнта-віяланчэліста. На хаду, нават з нейкай сараматлівасцю (ад чаго?), не ўслухоўваючыся ў мелодыю, а ўслухоўваючыся ў сябе...

●

Чалавека на гэтым свеце нічога не задавальняе дарэшты...

І нярэдка канае ён, здаволіўшыся шукаць задавальненне ад уласнага жыцця...

●

На балконе завяліся восы, у расколіне між блокамі. Я намерыўся іх звесці — запхнуць дзірку рыззём. Аднак, пакусалі, не падпусціўшы...

Хадзіў з распухлымі пальцамі. Вырашыў — няхай жывуць.

Падобным чынам, здаецца мне, трэба ўжывацца прэзідэнту з незалежнай прэсай.

●

Гуляў з дачкою ў карты... Нечакана для сябе застаўся *дурнем*...

Не дзіцячая гэта забава. Трэба забараніць.

●

Наконт адной ідэі двух палітыкаў.

І аднаму — хочацца, і другі — не супраць. І ўжо, здаецца, ані мяжы, ані якіх іншых перашкод для здзяйснення задуманага акта няма...

Бяда толькі ў тым, што кожны хоча заняць і *адстаяць* упадабаную ім пазіцыю...

Цікава, хто ж каму саступіць і хто перад кім схіліцца?..

●

Чытаючы "дзённікі" Максіма Танка, унутрана адчуваеш, што гэты чалавек, увесь да астатку, "пайшоў" на Паэзію.

Тое і засталося, што гарэла і грэла. І застанецца, як у яго там:

***Абвясцілі: паэт!***
***А я ім не збіраўся быць,***
***І не стараўся быць,***
***І не хацеў быць.***
***І пра гэта***
***Добра знае агонь,***
***На якім я паліў***
***Свае вершы.***
***Я перакананы:***
***Агонь умее маўчаць.***
***Няўжо мяне выдаў***
***Попел?***

А "дзённікі" — так, ад чалавечай слабасці, ад апусташэння... Попел ад прозы... жыцця.

Чытаем толькі таму, што напісана тою ж рукой, што і "Аве, Марыя"... Ён прадчуваў, што "на экзамене" часу яму будзе няпроста:

***У мяне спыталі:***
***— У якой імперыі***
***Не заходзіла сонца?***
***Я адказаў:***
***— Толькі ў адной —***
***У імперыі паэзіі...***

***І праваліў экзамен***
***Па гісторыі.***

●

І яшчэ — удагонку да "дзённікаў" Танка: "Пайду на выстаўку М. Савіцкага, аб якім з захапленнем піша В. Быкаў..." (1979 г.)

Хадзіў тады ці не хадзіў? Пайшоў бы сёння ці не пайшоў бы?.. У тых карцінах Савіцкага і цяпер засталося ўсё так, як і было. Змяніўся наш погляд на мастацтва ці мастацтва змяніла наш светапогляд? Калі чалавек мае дачыненне да творчасці, то і творчасць павінна мець дачыненне да чалавека...

Усё так. Адкуль жа пытанні? З самога часу? Ці проста часовыя?

●

Непадалёк ад увахода ў вінную краму сядзіць бабка і гандлюе семкамі. Адтуль выходзіць пакамечаны мужчына ніякага веку з пляшкай віна і, схіліўшыся над старой, гундосіць: "Слухай, бабця, дай пару семак на закусь". Бабка гідліва сыпле яму ў растапыраныя пальцы шчопаць семак, буркліва дадаючы: "Як вы ўжо абрыдлі мне сваёй закуссю..."

О, за Брэжневым мы ўсё-ткі закусвалі цыбуляй, гурком, хлебам...

Былі часы! Цяпер — семачкі!..

●

У нас усе народныя пісьменнікі і паэты апраўдваюць гэтае, нададзенае ім, званне.

Яны — менавіта народнікі. Песняры ды змагары за лепшую долю...

Ну і якая сёння нашая доля?!

●

Каханне — гэта нешта такое эфемернае, што немагчыма быць дарэшты ўпэўненым у сваім дачыненні да яго, а тым больш, быць яго ўласнікам...

●

Вечарам перачытваў Ігара Шклярэўскага. Праніклівы па глыбіні прыроднага таленту паэт...

Хацеў напісаць: рускі, ды нешта замінае. Не слова, а дух... І — беларускі — напісаць замінае тое ж. Не дух, а слова...

●

Выдатная нізка вершаў у "Крыніцы" Юрася Пацюпы з Гародні... Адчуванне слова, мера эмоцый, цвярозасць думкі — чытаеш, як ідзеш на золку роснай лясной сцежкай... Менавіта — сцежкай, а не дарогай ці гасцінцам альбо шляхам... не ведаючы, дзе сцебане цябе пругкай галінай, а дзе акропіць жывой і чыстай прахалодай боскай расы...

Не шлях тут сутнасны, а прырода. Прырода таленту...

●

Галіна Дубянецкая — з вершамі ў часопісе "Полымя" — як дзіцятка не ад нашых літбацькоў у беларускай мацi-паэзіі...

Гэткая падчарка з зімовымі пралескамі з Андэрсанавай казкі "Дванаццаць месяцаў"... Самадастатковая — словам, жыццём, лёсам...

Вырак — не няшчасце, вырак — абранасць...

●

Сядзеў ноччу, разважаў пра літаратуру, і раптам падумалася: каго з нашых сучасных літаратараў пазнаў бы па адным-дзвюх вершах, па адной-двух старонках тэксту?

У паэзіі, да прыкладу...

Барадуліна, Разанава, Някляева, Дранько-Майсюка, Артымовіч, Купрэева, Бічэль, Булыку, Сыса, Дубянецкую, Пацюпу, Гуменюка, Шніпа, Баярына, Вярцінскага, Пранузу з Прыходзькам, Адамовіча, Скоблу, Акуліна (па бардаўскім акцэнце), Аксак Валю, Таню Сапач, Мінкіна, Макарэвіча (па маякоўскай лесвічцы), Мятліцкага (па тэматыцы), ну і, бадай, па лірычнай чысціні халоднага стылю — Пісьмянкова...

Запісваў як здумоўвалася. І бачыце, спіс даволі шырокі... Гэта ў паэзіі. А ў прозе? Адразу прызнаюся, тут я менш начытаны.

...Брыля, Глобуса, Пташнікава (дарэчы, не ведаю, як для каго, а для мяне — найпершы празаік), Быкава, Федарэнку, Станкевіча (па калізіі), Чобата (па акрэсленасці "крэсавага"), зноў жа Купрэева, Кудраўца, Казько, Арлова (незалежна ад жанру і тэматыкі), Асташонка (па неўрозу творчай манеры), Сакрата Яновіча, Пятровіча, Шамякіна (па класавай ідэалогіі), Алексіевіч (па жанры), Вайцяшонак (па лёсавым выпакутаваным стылі)... Ах, Казлова Толю (па таемнасці якой-небудзь свечкі, сярнічкі, талісмане...).

Таксама — даволі прыстойны спіс.

А ў крытыцы, калі "пайшла такая п'янка"?

Акудовіча (па ўсім — розуме, "гжэчнасці" і запудрыванні мазгоў), Шупеньку (па традыцыйна-класічным пафасе і стылёвым хаосе), Конана (па талерантным хрысціянскім почырку), Кісліцыну (па жаночых праявах), Тычыну (па роўным, вывераным дыханні), Станюту (па інтэлігентным сленгу і франтаватасці), Бур'яна (па тэатральна-акцёрскай эмоцыі), Марціновіча (па ўсім і паўсюль), магчыма, Бугаёва (па шырокім акадэмічным замаху і адначасна дзіцячым здзіўленні — рэдкі выпадак!), яго дачку Люду (па эстэтычным гусце) ды Сямёнаву Алу Іванаўну (па флёру, мройным стылі і французскім акцэнце)... Васючэнку (калі не заказное), Афанасьева (па глыбока схаваным сэнсе)...

Дубаўца! — ледзь не забыў! Хоць тут, здаецца, якраз той выпадак, калі "нельга забыць"...

Не, браткі, гэта не я такі чытач і бібліяфіл, а гэта такая, значыцца, літаратура нашая ёсць. Прыкладна. З таго, што менавіта мне бліжэй па духу, з таго, што чытаў і чытаю...

А яшчэ ж, пэўна, многіх не ўпомніў, а яшчэ ёсць тыя, каго не чытаю ці рэдка чытаю, але, кажуць, пішуць і яны не горш... Перапрашаю. Літаратура — такая справа цягамотная, усіх не перачытаеш...

У кожнага з нас свой лёс, свая слава і бясслаўе... І кожны мае права маракаваць пра гэта па-свойму...

●

Не спяшайся запісваць вячэрнюю думку. Пераспі з ёй... І ранкам ты здзівішся яе ўчарашняй змрочнасці. Яна прасвятлее...

●

Ва ўсім ёсць недахоп і перанасычэнне... Ад недахопу — хістае, ад перанасычэння — стамляешся...

Мера ж — невызначальная...

●

Адзіны, хто заўжды прайграе ў палітычных гульнях, — гэта просты народ, плебс, прашу прабачэння...

Толькі ён ідзе "ва банк" з пустымі кішэнямі і з "шасцёркамі" на руках...

●

Чалавечы розум бездапаможны. Ён да гэтага часу так і не змог паралізаваць у чалавеку варварскія інстынкты. Па вялікім рахунку, чалавечая фізіялогія і разумовая сутнасць так і засталіся першабытнымі... Чалавек і стварае, і разбурае. І чым дасканалей створанае, тым страшней сіла разбурэння...

Ці не таму так мірна і бяспечна ўжываюцца ў нашай свядомасці Гамер і Нерон, Гандзі і Гітлер, малпа і Пол Пот...

●

Чалавечая святасць — міф. Богу гэта ведама ад самага пачатку. Ды і самі мы ўяўляем пра сябе Бог ведае што...

●

Дурань, усё ніяк не магу пагадзіцца з Дарвіным, што чалавек паходзіць ад малпы...

А чаму, скажам, не наадварот? Эвалюцыя ж яшчэ не скончылася...

●

У жывым эфіры Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі выступае наш сумнавядомы па сваёй дзіцячай хлусні Азаронак. Вядучая, з воблікам жанчыны трыццатых гадоў, падараваўшы напрыканцы перадачы яе герою плюшавае ваўчанё, кажа: "Этот волчонок — вам от нас. Мы надеемся, что вы из адинокого маленького волчонка вырастете там в большого зубастого волка, который будет драться за нашу единую державу..."

Азаронак: "Да я не один там уже, нас, можно сказать, целая стая".

І гэта ўсё паказвае, ужо ў запісе, наш восьмы канал. Каковы *канальи* у нас однако!..

●

Не шукай праўды жыцця ў людзях. Шукай — у сабе. Знойдзеш — будзеш пакутаваць. Не знойдзеш — таксама...

●

Мае сябры? Дзіўнае пытанне да чалавека, які нават сам з сабою мае напружаныя і неадназначныя стасункі...

●

Ну ніяк мне не размінуцца з Брылём у гэтых сваіх пісанках. Прачытала жонка ўслых тое з яго, што я некалі прабег вачыма, відаць, без асаблівай увагі. А дарэмна...

Дык, значыць, Янка Брыль запісвае з аповеду іншага чалавека наступнае: "Тарашкевічаў бацька, шкадуючы сына, пытаўся: "Броня, як ты думаеш, народ наш ужо дарос да таго, каб за яго галаву аддаваць?"

І вось, думаю... Думаю, што неўзабаве падобнае пытанне можа задаць мне і мая дачка...

Гэта спрадвечнае пытанне, бо на яго ніколі не было, няма і не будзе пэўнага адказу...

Пытанне жывога да мёртвага...

●

Летам сабраліся ў мамінай хаце браты, цёткі ды суседзі... Гамоняць. Цётка кажа: "Ой, Лёнічак, ніхто з нас і падумаць не мог, што ты сёння такім чалавекам станеш... (Якім, праўда, не ўдакладняе.) От, думалі, так п'яны пад плотам і зваляешся..."

Разышліся, дык мне, раптам, заманілася ў малодшага брата, што ў роднай вёсцы шафёрыць, распытаць пра маіх былых дзяўчат-каханак, за якімі я калісьці валачыўся. Пасля тых цётчыных слоў уверзлася мне ў галаву, што былыя мае абранніцы, якія мяне "пракінулі", сёння аб тым вельмі ж шкадуюць...

А брат, пачухаўшы патыліцу, і кажа: "Двое з іх за п'янню замужам і ў адной з іх мужык ачапіўся нядаўна, а трэцяя да гэтай пары бабіцца, загадваючы клецкім пітным месцам... Кажуць, што ты ўсё свае вершыкі складаеш, дзяцінееш, гаспадаром не стаў, жывеш ад зарплаты да зарплаты ў сваёй хрушчоўцы, з бэнээфаўцамі па Мінску бегаеш... Нічога яны зайздроснага ў тваім жыцці не бачаць..."

А то я думаў! Перафразуючы вядомую песню з "Семнаццаці імгненняў вясны": *о женщинах не думай свысока...*

●

Спыніўся гадзіннік. Трэба зноў заводзіць, падганяць час... Да якога часу?!

●

Чаму мне заўжды так трывожна і дыскамфортна ў натоўпе, нават тады, калі я з ім, нібыта, салідарны?..

Аднадушша — вось што бянтэжыць... Душа і розум не могуць быць заложнікамі нават самай светлай ідэі, паколькі чалавек сам — ад пачатку да канца — заложнік Божы...

У чалавека адна ідэя — боская, у Бога адна праблема — чалавечая...

●

Людзі мудрэюць не з уласнага розуму, а ад вопыту чалавечага жыцця. А — дурні? Дурнота ж мае не меншы вопыт...

●

Творца, на жаль, смяротны, а творчасць — безабаронная, як дзявочая цнота...

●

Часта ноччу — пэўна, такое здараецца з многімі — сядзіш на адзіноце, глядзіш сляпа, паліш і як бы думаеш — ні пра што і пра ўсё разам... Думаеш і не думаеш, нібыта за цябе нехта думае, а ты толькі адчуваеш тое думанне — і пакуту, і задавальненне, і раздражненне...

Як назваць такі стан — рэанімацыяй мінулага, перастварэннем спраўджанага?

Мабыць, нешта падобнае адбывалася з Хрыстом на крыжы... Бог — думаў, а Ён — разумеў...

●

Не магу трываць абмежаваных нацыяналістаў.

Рачное русла трымае ваду ў берагах, але не стрымлівае яе — плынь, каб заставацца чыстай, павінна рухацца і абнаўляцца...

Стаячая вада — гніе, пакідаючы *людзей на балоце...* Патрэбна пратока...

●

Ад графаманіі, роўна як і ад шызафрэніі, дарэшты не вылечваюцца...

Таму і не ліквідуюцца выдавецтвы і вар'ятні.

●

Чалавек памірае тады, калі перастае адчуваць боль... Сама б жыць...

●

Усё, што бачыцца ноччу, няўвіднае днём...

●

Позна ноччу глядзеў фільм Агнешкі Холанд "Поўнае зацьменне". Пра ўзаемаадносіны (пераважна сексуальныя) сусветна вядомых паэтаў Поля Верлена і Артура Рэмбо...

Глядзеў з гідлівасцю...

Трэба мець *маральнае права* на мастацтва, роўна як і *мастацкае права* на мараль...

●

Кожны чалавек лічыць, што ён жыве правільна.

І гэта — правільна з яго боку, бо тое, што пра жыццё канкрэтнага чалавека кажуць з іншага боку, гэта ўжо не праўда яго жыцця, а толькі погляд на тое жыццё альбо пэўныя стасункі з тым (чужым) жыццём...

*(Працяг на стар. 14—15)*

алы, нягледзячы ні на што, жыла і ў свядомасці беларускіх савецкіх пісьменнікаў, бо час ад часу ўзнікалі спробы выказаць хоць маленечкую долю праўды пра вялікую беларускую крыўду, якая ніяк не змяшчалася ў межах трагедыі апошняй вайны.

Здабыткі 60-х гадоў у неваеннай прозе вызначаюцца сёння "Дабрасельцамі" А. Кулакоўскага, а ў паэзіі — паэмай "Дажынкі" А. Вярцінскага, дзе па-мастацку шчымліва прадстаўлена ўся тая ж спрадвечная сацыяльная і нацыянальная безвыходнасць народа. Гэтыя творы, як і быкаўскія аповесці "Круглянскі мост" і "Мёртвым не баліць", у якіх трагедыя вайны выяўляецца з гуманістычных, ці дакладней кажучы, пацыфісцкіх пазіцый літаратуры нашаніўскай пары ("Літоўскі хутарок", "Рускі", "На этапе" М. Гарэцкага; "1914", "Вясна 1915", "Песні вайны" Янкі Купалы; "Юда жэніцца на полі", "Немы" і інш. Змітрака Бядулі; "Чалавечая кроў", "Праводзіны" Алеся Гаруна), былі ў свой час раскрытыкаваныя і асуджаныя. Што і стала надзейнай заслонай далейшым мастацкім распрацоўкам у гэтым накірунку.

І ўсё ж, нягледзячы на стылёвую і тэматычна-жанравую разнастайнасць, якраз вайна і вёска застаюцца цэнтральнымі тэмамі ў прозе 60—80-х гадоў.

Беларуская вёска доўгі час была і пакуль яшчэ застаецца, бадай, адзіным натуральным асяродкам беларушчыны, прыроднага існавання беларускага слова. Аднак пасляваенная вёска, маральна і псіхалагічна раздушаная калектывізацыяй, даведзеная да галечы і поўнага сацыяльнага бяспраўя калгасным ладам, ужо ў пасляваенныя гады на вачах змянялася і памірала.

"Мацерыком, што беззваротна змяншаецца", — назваў яе на пачатку 80-х А. Адамовіч. "Нельга страціць час, непаўторна адказны, важны, нельга згубіць магчымасць, якой заўтра ўжо не будзе, — мы абавязаны зберагчы і перадаць далей духоўны, маральны, чалавечы вопыт, што тысячагоддзямі збіраўся тут, іменна на гэтым мацерыку", — звяртаўся пісьменнік да сяброў-літаратараў, нібы падказваючы ім найбольш аптымальны і па-мастакоўску найменш стратны шлях у адлюстраванні вёскі тае пары. (Зазначу, што ў нейкай ступені гэта быў збіральніцка-этнаграфічны шлях, вяртанне да традыцый літаратуры пачатку XIX ст. — Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, Т. Лады-Заблоцкага і інш.).

Здабыткі так званай вясковай прозы і сапраўды заўважны найперш у даследаванні духоўных і культурных традыцый і маральных праблем, а таксама ва ўзбагачэнні лексічных пластоў беларускай літаратурнай мовы, абкарнанай і знявечанай афіцыйнымі нарматыўнымі слоўнікамі. Каб пераканацца ў гэтым, можна згадаць найбольш значныя творы паваенных гадоў: "Палескую хроніку" І. Мележа, "Смаленне вепрука" М. Стральцова, "Чужую бацькаўшчыну" В. Адамчыка, "Сачыненне на вольную тэму" А. Кудраўца, "Неруш" В. Казько, "Халодную птушку" А. Жука, "Жыціва" В. Гігевіча.

Думка пра нацыянальны шлях, што хвалявала калісьці беларускага інтэлігента ў ягоных узаемадачыненнях з народам, і якая дамінавала ў творчасці Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага і іншых адраджэнцаў, у згаданых творах не прысутнічае. Вычытаць яе ў падтэксце развагі адамчыкаўскіх герояў зможа хіба што толькі занадта дасведчаны крытык.

Так адбывалася таму, што, паводле скрушліва-самакрытычнага прызнання У. Гніламёдава, усё пакаленне паваенных літаратараў хварэе "на комплекс нацыянальнай непаўнаты, непаўнацэннасці. Усе, за выключэннем нямногіх. Сярод гэтых нямногіх — Сакрат Яновіч", — пераканана сцвярджае крытык.

Прозу Сакрата Яновіча, відаць, паводле чыста знешніх прыкмет, некаторыя крытыкі адносяць таксама да вясковай плыні. З чым пісьменнік, трэба думаць, слушна не пагаджаецца.

"Jego świat dzieli się na wiejski (autentyczyny, bialoruski) i miejski (neautentyczny, spolonizawany)... Miasto zamieszkaja ludzie nie tylko zagubieni, ale też zdeprawowani... Moralizatorski ton znika biez śladu, gdy Jnowicz pisze o wsi, W tych utworach, zwlaszcza w miniaturach, okazuie się mistrzem", — піша пра С. Яновіча Казімеж Росіньскі.

Супрацьпастаўленне двух светаў — вясковага аўтэнтычнага беларускага і гарадскога неаўтэнтычнага, спаланізаванага ці зрусіфікаванага для беларускай літаратуры — традыцыйнае.

Герой С. Яновіча сапраўды вясковец альбо былы вясковец, што "шалясціць саломай" на вуліцах вялікага горада Беластока, гэтай своеасаблівай сталіцы беларускай меншасці ў Польшчы. Аднак вёска займае Сакрата Яновіча, паводле яго ўласнага прызнання, таксама перадусім "як аплот беларушчыны", а як пісьменніка цікавіць яго "прыніжаны, раздушаны чалавек, які ў сваёй маральнай разбэшчанасці апускаецца ўсё ніжэй".

Тэма "сена на асфальце" (М. Стральцоў) у сучаснай беларускай літаратуры па-гаспадарску абжытая. І вызначаюць яе найперш шчымлівая туга па страчаных ілюзіях, па высокіх ідэалах і душэўнай гармоніі, вытокі якіх у забытых пустых вёсках, а крах — на заасфальтаваных тратуарах вялікіх гарадоў.

Герою нашай літаратуры з яго раздвоенай свядомасцю паўвяскоўца-паўгараджаніна, паўрускага-паўбеларуса сучасны горад "здаецца бясконцым, здаецца, што ўжо ўсюды, куды ні памкніся, будуць высокія да самага неба цагляныя і блочныя будыніны, шэрасць асфальту пад нагамі, гулкія машыны, агароджы, агароджы і яшчэ — людзі, людзі, людзі... як быццам ужо нідзе ва ўсім свеце не засталося ні птушак, ні палахлівага звера, ні тых жа рыб у вадзе, і таму без усяго гэтага, здавалася, не надта патрэбнага і неабходнага, душа апусцела".

У гэтай цытаце з рамана В. Гігевіча "Доказ ад процілеглага", здаецца, прачытваецца маральна-псіхалагічны партрэт галоўнага героя беларускай прозы — крыху разгубленага, душэўна неўладкаванага чалавека, які і хацеў бы, але не ў стане вырваць са сваёй душы "роднае карэнне" (М. Гарэцкі), што сімвалізуе сабой не толькі маральную, але і духоўную повязь з вёскай.

Вёска ўспрымаецца героем як родны дом, куды, на жаль, няма вяртання. Зрэшты, гэтае вяртанне герою само па сабе і не надта патрэбнае. Яму патрэбна іншае — адчуванне нацыянальнай тоеснасці, сваёй самасці, якую можа даць яму толькі вёска. Бо акурат яна, як слушна сцвярджае С. Яновіч, з'яўлялася да нядаўняга часу "адзіна істотным апірышчам дзеля выспявання нацыі".

Аднак не стала. Купалаўскі шукальнік народнага шчасця Сам перарадзіўся ў гультаявата-дурнаватага мрыеўскага Самасуя, ад Самасуя ж пайшлі Самасеі, хітрыя, маральна прыніжаныя і ў той жа час хціва-карыслівыя.

Нельга не пагадзіцца з тэарэтычнай высновай С. Яновіча, што сялянства не здолела адыграць у свой час належнай яму ролі. У выніку сёння мы маем тое, што маем. "Мешчанін-асімілянт і мужык-абарыген, гэта нават і не партнёры ў культурнай канфрантацыі. За першым з іх высілася (і высіцца да гэтага часу. — **Г. Т.**) тая-другая вялікая культура каланізатараў, а за другім — безамбітная, вульгарная мімікрыя дзеля біялагічнага ўсяго толькі выратавання".

Гэтую, вартую жалю, мімікрыю і адлюстроўвае Сакрат Яновіч у сваіх невялікіх навелах-абразках "Страшны канец Антона", "Росквіт і ўпадак Бядоціка", "Петрыкаў дабрабыт", "Лялік, Швайка і рэшта", "Сашэсце Ахапа" і інш., а таксама і ў псіхалагічнай аповесці "Самасей". У прадмове да кнігі, якая, дарэчы, таксама называецца "Самасей" (выдадзена ў Мінску ў 1992 годзе), У. Рубанаў слушна падкрэсліў тыпова беларускую, нацыянальную праблему раздвоенасці, увасобленую С. Яновічам у вобразе Андрэя Антошкі. Аднак, не засяроджваючыся на яе вытоках, вытлумачыў усё толькі дваістасцю чалавечай прыроды ўвогуле.

Аповесць "Самасей" Сакрата Яновіча ствараласяў 80-ыя гады, у аднадчассе з такімі творамі, як "Рэха даўніх надзей" А. Асіпенкі, "Вырай" В. Блакіта, "Карані" А. Карпюка, "Прагал" М. Гіля, урэшце, раманам у вершах Н. Гілевіча "Родныя дзеці". Эстэтычныя вартасці згаданых твораў вельмі розныя. Праўда, бадай, у кожным з іх прысутнічае (у пэўнай ступені рамантычная) паэтызацыя старой патрыярхальнай беларускай вёскі. Свядома ці неўсвядомлена, аднак сваім творам і іншымі, змешчанымі ў гэтай кнізе, С. Яновіч уступіў у палеміку з гэтак устойлівай тэндэнцыяй. Вёска у творах Яновіча паўстала ў змрочных фарбах крытычнага рэалізму, не гінучай Атлантыдай, а ўсяго толькі багіняю Ганьбы, вёскішчай, дзе адны старыя пачуваюцца сялянамі, "і таму на іх тварах скачуць грымасы вінаватасці".

Зрэшты, пачуцці разгубленасці, неўразумення і нейкай спрадвечнай беларускай забітасці — адчуванне сваёй віны нават там, дзе яе няма — выдатна перададзены і ў вобразах Анэты ("Халодная птушка" А. Жука), Хрысціны (Рэха даўніх надзей А. Асіпенкі), і ў вобразах Мар'яна Знаўца ("Хроніка дзетдомаўскага саду" В. Казько), Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі ("Сачыненне на вольную тэму" А. Кудраўца). Аднак гэтыя пачуцці ў С. Яновіча знаходзяць канкрэтнае і нечаканае вытлумачэнне. Падставы для "грымасаў вінаватасці", аказваецца, ёсць. Вытокі не толькі ўласнага маральнага падзення, але і карані бездухоўнасці ўсяго свайго пакалення, якія апантана вышуквала беларуская проза 60—80 гадоў, герой "Самасея" Андрэй Антошка бачыць у тым, "што іхнія бацькі не далі ім таго, чаго не мелі, бо не маглі мець: пачуцця гонару за сябе, за свой род". Несумненна, што ў гэтай аповесці, аздобленай шматлікімі адступленнямі, лірычнымі маналогамі, асацыятыўнымі згадкамі і сімвалічнымі снамі, дзе вельмі шмат аўтабіяграфічнага, — і гэтая выснова найперш аўтарская, прадуманая і выпакутаваная цягам доўгіх гадоў.

"Ніхто не ведае, ці калі было добра ў вёсцы. Мяркуючы па тым, як ад самае старажытнасці людзі імкнуцца ў гарады, трэба лічыць, што гэта і ёсць адказ... Колькі ж год і вякоў мужык толькі і ведаў чакаць таго, каб перастаць быць мужыком (у казакі падаваўся). І прычакаў, дзякуй Табе, Божа Усямоцны", — піша С. Яновіч у сваіх "Занатоўках для памяці", адметных па сваім жанравым характары (нечым нагадалі мне брылёўскі "лірычны запіс").

Ёсць тут прыхаваная палеміка і з коласаўскім Міхалам, і з мележаўскім Васілём Дзятлікам, не кажучы ўжо пра літаратуру настальгічных уздыхаў пра вёску, час якой незваротна мінуў. Першым гэтую незваротнасць, выглядае, адчуў якраз С. Яновіч і нібыта падвёў своеасаблівую рысу пад балючай для нас тэмай "сена на асфальце" — у прозе "Самасеем", "І доўгай смерцю Крынак", у публіцыстыцы артыкулам "Канец купалаўскай уяве нацыі".

"Не зразумець мне, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх не быць; урослыя ў зямлю будынкі й размытыя вуліцы тут будуць укрытыя свяжуткімі бярэзнічкамі, грыбнымі пералескамі. Пушча атуліць непатрэбную ў капіталізм ваколіцу: на колішніх загонах забуяюць мядзведжыя маліннікі, завядуцца дзікі пад дубовымі падрубамі й пачнуць пасціся казюлі на ўтравелых прыгуменнях... Позніцца прыход сюды новай цывілізацыі горада й лесу. Вінаватыя ў гэтым, вядома, палякі, перабіраючыся ў пакінутае беларусамі феадальнае старонне. Бессэнсоўна яны мяркуюць, што хоць у Крынках, гэтым пасляхалопскім цені горада, можна выжыць... А ў іх жа магчыма толькі ціха памерці".

У гэтай невялікай цытаце, здаецца, найбольш скандэнсавана выявілася сутнасць мастакоўскай індывідуальнасці С. Яновіча. Тут ідэйна-палітычная заангажаванасць раствараецца і амаль знікае ў "першабытнавобмацнай рэчыўнасці" (У. Гніламёдаў) беларускага слова. Як і ў большасці сваіх твораў, Сакрат Яновіч тут існуе на памежжы паэзіі і прозы, у стыхіі натуральнага для яго мастакоўскай існасці лірызму.

Гэты прыроджаны лірызм яшчэ больш адцяняе постмадэрнісцкую свядомасць, якая дамінуе, паводле меркавання М. Тычыны, у творчасці С. Яновіча.

Аднак выглядае, што постмадэрнізм заваёўвае сабе ўсё большую прастору і ў сучаснай постсавецкай беларускай прозе. Найперш ён дашчэнту разбурыў ідылічна рамантычныя ўяўленні пра вёску, як пра спецыфічны аазіс беларускай культуры і беларускага менталітэту. Пасля апавядання В. Быкава "Народныя мсціўцы", аповесці А. Федарэнкі "Вёска", дзе сучаснае сялянства прадстаўлена нягеглымі п'яніцамі Снайперам ды Дубчыкам, альбо прыдуркаватымі Пульсам ці Ручкай, можна сказаць, што славутая адамовічаўская вясковая Атлантыда пайшла на дно.

Руйнаванне чалавечай духоўнасці, патаптанне гуманістычных ідэалаў, — а ў выніку — пачуццё разгубленасці, безвыходнасці і бессэнсоўнасці чалавечага існавання дамінуе і ў аповесці В. Казько "Да сустрэчы"... А тут гаворка ідзе не пра вёску. Тут у цэнтры спрадвечная тэма — лёс і прызначэнне мастака, ягоныя ўзаемадачыненні з грамадствам.

Таму здаецца, што ў постсавецкай літаратурнай прасторы беларуская проза метраполіі і Беласточчыны ў сваім ідэйна-эстэтычным успрыманні навакольнага свету ўсё больш збліжаюцца.

Ёсць нешта сімвалічнае ў агульнасці назвы "Сцяна" скончанай у 1997 годзе аповесці С. Яновіча і выдадзенай ў гэтым жа годзе кнігі прозы В. Быкава.

Так, многае збліжае С. Яновіча з Васілём Быкавым: перадусім гэта ярка выяўленая грамадзянская пазіцыя і поўная адсутнасць ілюзій наконт сутнасці і ролі беларускага народа ў гісторыі беларускага Адраджэння.

У гутарцы з Я. Чыквіным С. Яновіч прызнаўся, што ён не любіць людзей, бо іх няма за што любіць. Але, не любячы людзей у іхнім калектывісцкім тлумным праяўленні, празаік з нейкім шчырым шкадаваннем і жальбай ставіцца да асобнага чалавека, воляю шматлікіх суб'ектыўных і аб'ектыўных абставін пастаўленага ва ўмовы маральнай дэградацыі і паніжэння. Ад беспрасветнае безвыходнасці прозу С. Яновіча ратуе іронія, якая, паводле выказвання П. Васючэнкі, стала не проста літаратурным прыёмам пісьменніка, а асноваю светагляду.

Затое ў апошніх паводле часу творах В. Быкава чалавек паўстае ва ўсё больш абстрагаванай самоце. "То быў поўны тупік; пастка за ім зачынілася. Надзея, што вяла яго гэтулькі часу, увачавідкі змарнела і раптам сканала. Ён яшчэ жыў, але толькі нейкаю часткай сваёй істоты: жыць у турме не мела сэнсу, памерці таксама не большы сэнс. Добра б не нарадзіцца зусім. Але, на жаль, тое ад яго не залежала..." Так піша В. Быкаў пра адчуванні свайго героя ў апавяданні "Сцяна" напрыканцы XX стагоддзя.

А на пачатку нашага тлумнага чарнобыльскага веку другі славуты адраджэнец і пакутны нявольнік Алесь Гарун у апавяданні "Маладое" з красамоўным падзагалоўкам "Астрожная быль" узнаўляў падобную ж сітуацыю — прагу вязня вырвацца з турмы і безвыніковасць ягоных намаганняў. Але колькі гарачага энтузіязму, юначага аптымізму і шчырай веры ў перамогу дабра жыло ў душах ягоных герояў.

Гісторыя паўтараецца. І гісторыя літаратуры таксама. Толькі, кажуць, рух ідзе па спіралі. І кожны новы віток яе набліжае нас не толькі да перажытага, але разам з тым і да нечага намі нязведанага.

---

іншым аспекце, былі закрануты ў суседняй літаратуры). А наколькі плённасць падобных узаемасувязяў відавочная, дастаткова спаслацца хоць бы на два (а іх дзесяткі) прыклады з манаграфіі Ц. Ліякумовіча, на падставе якіх вядзецца разгорнутая гаворка аб праблемах творчых кантактаў і ўзаемасувязяў.

У прыватнасці, Я. Купала вельмі любіў паэзію М. Лермантава. Што сярод яго першых захапленняў быў менавіта Лермантаў, ён прызнаваўся ў аўтабіяграфіі, напісанай у 1928 годзе. А ў гутарцы з прафесарам А. Вазнясенскім "захапляўся аб'ёмнай абагульненасцю лермантаўскіх пейзажаў, іх архітэктурна-жывапіснай стройнасцю". А. Вазнясенская здзівіла, "як усебакова ведаў беларускі паэт дакладнасці лермантаўскага мастацкага свету, як глыбока разумеў своеасаблівасць яго паэзіі". Зразумела, што і ва ўласнай творчасці Я. Купала не мог не адчуць на сабе ўплыву таго, каго высока цаніў як мастака слова. І гэты ўплыў адчуваецца ў некаторых купалаўскіх творах. Як аргументавана давodзіць Ц. Ліякумовіч, можна знайсці "падобнасць" у вершах "Спадчына" і "Родине", "І прыйдзе" і лермантаўскай "Думе"... Абодва таленты, кожны ў свой час, не маглі не задумвацца над лёсам Бацькаўшчыны і кожны па-свойму перадаваў гэта, але скіраванасць гаворкі ў многім блізкая. Я. Купала, канечне, не збіраўся паўтараць М. Лермантава, дый гэта немагчыма, ён, як і яго рускі папярэднік, у цяжкі, вызначальны для Радзімы час, узнімаўся да глабальных праблем.

Ц. Ліякумовіч спасылаецца на выказванні і іншых навукоўцаў, хто ў той ці іншай ступені пісаў пра ўзаемасувязі Я. Купалы з рускай літаратурай. Але, паколькі яны з'яўляліся тады, калі панаваў ідэалагічны дыктат, творча падыходзіць да ўсяго. Гэта яскрава відаць на прыкладзе сатырычнай камедыі "Тутэйшыя", у якой народны песняр узняў голас у абарону беларусаў і беларускасці. Высока гэты твор ацаніў у свой час і вядомы савецкі даследчык М. Пархоменка, паставіўшы п'есу Я. Купалы поруч з творамі А. Серафімовіча, Д. Фурманава, Ус. Іванова і іншых. Але падыход у М. Пархоменкі быў своеасаблівы. У "Тутэйшых" ён бачыў толькі ўздым беларускай літаратуры пасля кастрычніцкіх падзей, а таму і спрабаваў высветліць, наколькі Я. Купала адлюстраваў іх. У сувязі з гэтым М. Пархоменка канстатаваў, што п'еса "не сагрэта пафасам сацыялістычнай рэвалюцыі, а перспектывы, адкрытыя рэвалюцыяй перад беларускім народам, дадзены ў ёй па-старому, у духу даволі расплыўчатых агульнадэмакратычных ідэй нацыянальнага адраджэння на вясковай, патрыярхальна-сялянскай аснове". Інакш кажучы, М. Пархоменка хацеў бачыць у "Тутэйшых" тое, чаго ў іх няма і быць не магло, бо Я. Купала ставіў перад сабой куды іншую мастакоўскую задачу. "П'еса, — па словах Ц. Ліякумовіча, — сцвярджала беларускую нацыянальную самасвядомасць, самабытнасць беларускай нацыянальнай культуры і беларускай мовы". На яго ж думку, "Тутэйшымі" Я. Купала як бы апярэдзіў з'яўленне шырокавядомай п'есы У. Маякоўскага "Клоп", у якой таксама высмейваюцца рознага роду прыстасаванцы, што ўсплылі на паверхню пасля кастрычніцкіх падзей. І зноў жа тут ідзе гаворка аб блізкасці матываў, бо наўрад ці быў У. Маякоўскі знаёмы з творам Я. Купалы. Нават па той простай прычыне, што "Тутэйшыя" ў свой час так і не былі апублікаваны.

"Янка Купала і руская літаратура" — тэма вельмі шырокая і аб'ёмная. І немагчыма ў кароткай рэцэнзіі засяродзіць увагу на ўсіх аспектах, што закранаюцца Ц. Ліякумовічам як у другой частцы, так і ў кнізе ў цэлым. Адно нельга не сказаць. На гэта, дарэчы, скіроўвае ўвагу і аўтар, калі ў заключных радках манаграфіі піша: "Праблема "Янка Купала і руская літаратура" — гэта толькі адна грань шырокіх шматбаковых узаемасувязяў беларускай і рускай літаратур, якія патрабуюць далейшага даследавання з улікам іх багатага ўзаемадзеяння. Вывучэнне фактаў узаемасувязяў дзвюх літаратур, і ў першую чаргу Купалы-паэта, які стаў неад'емнай часткай духоўнага жыцця Расіі, з рускай літаратурай, спрыяе разуменню самабытнасці беларускай літаратуры як арыгінальнага феномену ў сусветнай літаратуры, служыць пацвярджэннем яе ўкладу ў сусветную культуру, а значыць, і ў цывілізацыю чалавечага грамадства".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ПРОЗА

# ЗАКЛЮЧНЫ ДЫЯГНАЗ

Мар'ян ВІЖ

АПАВЯДАННЕ



СЦЯПАН ПЯТРОВІЧ прачнуўся роўна ў шэсцьтрыццаць. Ролю будзільніка з дня на дзень бездакорна выконваў сусед з верхняй кватэры — адстаўны палкоўнік-бабыль, які доўга служыў па астрогах і, кіруючыся родным турэмным раскладам, якраз гэтай парой звыкла браўся за ранішні шмон, ці, прасцей кажучы, лагерны вобыск. Зусім не спыняла суседа, што даўно на пенсіі, што ў маламетражцы — адзін-разадзін: раніца, як звычайна, стартавала ў пары са шмонам.

Лоджыя Сцяпана Пятровіча глядзела на шчодра прысыпаную першым снегам школьную спортпляцоўку. За шклом вісела густая, прысцюжаная лёгкім марозікам шэрань. Яна ахутвала соннай смугой мініяцюрнае футбольнае поле, кароткія бегавыя дарожкі, бліжнія высотныя дамы, дзе ўроссып сям-там няярка свяцілася некалькі вокнаў. Схаваным пакуль заставалася і астатняе мінскае наваколле, якое яшчэ падманліва падавалася незабудаванай, без канца-краю вольнай прасторай. Сцяпан Пятровіч любіў лірычныя карціны з'яўлення новага дня, шкадуючы, што імпрэсіянічны ранішні вэлюм на вачах бясследна знікае.

Пад штучна-мажорныя галасы дыктараў "Радыёфакта" Сцяпан Пятровіч умела згатаваў сабе лёгкі сняданак. Не дзіва, аўдавеў ён яшчэ перад пенсіяй, а дарослыя сын і дачка жылі сем'ямі ў сталіцы асобна. Дзеці настойліва ўгаворвалі перабрацца да іх. Ды бацька, не зважаючы на ўзрост, паяднаўшыся з ціхай, але незалежнай уласнай самотай, не дазваляў нават думаць аб пераездзе. Зразумела, упартасць вымагала старога носа не вешаць, выглядаць па магчымасці жвавым, бадзёрым, хоць з гадамі гэта давалася адзін Бог ведае як.

"Нічога, адужаем! Вунь колькі наслання выпадала адольваць", — часцей і часцей заспакойваў сябе Сцяпан Пятровіч. Традыцыйны ранішні трэнінг нязменна завяршаўся даставаннем з шуфляды масіўнага пісьмовага стала кавалка барвовага аксаміту, да якога прычапіў металічныя, пазбаўленыя былога ззяння і бляску сведчанні колішніх заслуг бацькі — чатыры баявыя ордэны, мноства медалёў, знакі "Гвардия", "Почётный донор СССР", сціплы інстытуцкі ромбік. Стары моўчкі разглядаў іх, нібыта пераконваючыся, што пакуль яшчэ ў стане захаваць самастойнасць, нікому не дакучаць.

Сцяпан Пятровіч памыў посуд, разагнаў па баках фіраначкі на пасвятлелым кухонным акне, прыпаў да шыбы. Днела. Унізе азартна арудаваў фанернай дворніцкай лапаткай куртаценькі сусед-адстаўнік. З вышыні дзесятага паверха яго цёплая камуфляжная куртка плюс каракулевая папаха здаваліся нейкім механічна-рухавым, пухнатым калабком са светлым пупсікам. "Каб даслужыўся неўгамонны палкоўнік да наступнага чына, дык добраахвотна чысціў бы двор у лампасных генеральскіх штанах", — пасміхнуўся Сцяпан Пятровіч, здымаючы з халадзільніка разгорнуты перакідны каляндар. Запісы нагадалі, што сёння яму трэба схадзіць на пошту па пенсію, купіць неабходнае на поўны, у чатыры-пяць страў абед для сына, які абяцаў заскочыць апоўдні.

Калі Сцяпан Пятровіч у даволі прыстойным, строгім драпавым паліто з акуратным цыгейкавым каўнерыкам і такой самай шапцы паказаўся ў пад'ез-дзе, экс-палкоўнік выпрастаўся, з размаху ўсадзіў лапатку ў пухкую гурбу, прывітаўся натужным і зрывістым камандзірскім галаском, прыўзняўшы папаху над ленінскай лысінай:

— Сцяпану Пятровічу — наш добры дзень! Узялі, відаць, зранку курс ва універсам, а выглядаеце, нібы на службу спяшаецеся. Нават скураны партфельчык пры вас. Прыемна бачыць, паверце, інтэлігента старой, як гаворыцца, школы. Шкада, Пятровіч, шкада, што вы нашу ветэранскую асацыяцыю ігнаруеце. Вы ж заслужаны чалавек, франтавік!

— Ветэраны, таварыш палкоўнік, — розныя людзі. Не варта ўсіх мераць на адзіны капыл. Ды я, напэўна, ветэран нетыповы, бо, напрыклад, у партыі ніколі не быў.

— Няўжо сядзелі? — насцярожыўся дворнік-аматар.

— Не, даражэнькі сусед, не сядзеў. Але паўсюдна на шырокіх айчынных абсягах жыццё мала адрознівалася ад рэжымных парадкаў так званых зон. Значыць, зэкам можна смела назваць амаль кожнага са сталых людзей. Вялікай памылкі не будзе...

Сапраўды, Сцяпан Пятровіч — ветэран асаблівы. Ён яшчэ гадоў дваццаць таму прадчуваў непазбежнасць крушэння савецкай сістэмы. Шматгадовая праца ў рэспубліканскіх планавых установах ужо тады канчаткова пераканала: безнадзейна стратная эканоміка велізарнай краіны паходзіць на нямоглага інваліда, якому ў якасці мыліц да пары служаць дыктат і прымус, безагляднае разбазарванне прыродных багаццяў і, канечне, подленькая хлусня, уведзеная ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Дарэчы, адзін з пашыраных пастулатаў афіцыйнай ідэалагічнай дактрыны сцвярджаў, што літаральна ўсім ветэранам найбольш памятны Дзень Перамогі. Багаты ж акопны вопыт прывёў Сцяпана Пятровіча да крыху іншай высновы. Ён не сумняваўся ані: кожны, хто выжыў на фронце, святымі найперш лічыць даты сваіх цудадзейных збавенняў ад смерці. Самому яму невыказна запала ў сэрца 10 чэрвеня 1942-га.

...Стралковы батальён, вырываючыся з акружэння ля возера Мень, падняўся ў чарговую атаку. Кулямётчыка Сцяпана Цішчанку моцна зачапіла мінным асколкам ужо на зыходнай, голай і найбольш небяспечнай пляцоўцы нічыйнай паласы. Хапіла сіл толькі, каб па інерцыі дабегчы да снараднай варонкі ды здранцвелым кулём чмякнуцца на дно, у выратавальную гразь.

Цэлы дзень і назаўтра бой на паверхні то грымеў, то сціхаў без яго. Паранены, ён нерухома ляжаў, як забіты, павярнуўшыся спалатнелым тварам да пахмурнага неба. Свядомасць вярнулася ноччу ад болю ў спіне. Пры матавым святле Сцяпан адпоўз назад, да знаёмай крайняй траншэі, зваліўся ўніз. Але яго ніхто не сустрэў: парадзелыя роты ягонага батальёна напярэдадні адкаціліся прыцемкам у беспарадку, замацаваліся ў глыбіні на другой лініі абароны.

Два дні заставаўся Сцяпан у адзіноце, напружана прыслухоўваючыся да пазіцыйнай, без атак страляніны. Цела самлела, пахаладзела, зрабілася як не сваё. Сяк-так дзейнічала толькі левая рука. Не балела, не ныла нават спіна, куды трапіў асколак. Там часам адчувалася адно лёгкае казытанне. І салдат, каму не раз даручалі пасля працяглых баёў хаваць забітых, беспамылкова вызначыў прычыну гэтага казытання: у ране змяіста варушацца кароткія, белыя чэрві! Нечалавечымі высілкамі ён дастаў люміневую, як гаварыў старшына, лыжку з халявы, упёршыся кулаком у зямлю, пераваліўся на бок, рэзка здзёр лыжкай з месца асколак. У тую ж хвіліну шокава знепрытомнеў ад вострага болю...

Застыў бы навечна ў пустой траншэі Сцяпан Цішчанка, каб не пачалося назаўтра, 10 чэрвеня, наша дружнае наступленне, каб не даставілі санітаркі яго ў палявы лазарэт, адкуль ноччу вывезлі фанерным, лёгкакрылым "У-2" ці, прасцей "кукурузнікам" у тылавы стацыянарны шпіталь. Дактарам удалося неймавернае: лакалізавалі ачаг небяспечнага запалення, прадухілілі агульнае заражэнне крыві. Загадала ж занесці Цішчанку ў самалёт маладая, падцягнутая ваендоктарка, у якой Сцяпан імгненна пазнаў Кацечку Базарэвіч — былую ўсмешлівую прыгажуню-студэнтачку мінскага медінстытута, якую ён, студэнт БДУ, за год да вайны вечарамі часта праводзіў з танцаў да інтэрната. Праўда, у лазарэце Сцяпан гаварыць яшчэ ні слова не мог. Бесспрэчна, Каця таксама адразу пазнала яго, толькі чамусьці выгляду не падала.

На жаль, яны больш не ўбачыліся. Сцяпан, ледзь стаўшы на ногі, дасылаў запыты куды толькі можна, шукаў Кацю. Напуста! Ад знерваванасці, безнадзейнасці ён счарнеў, зноў злёг. Святло на абставіны асцярожна праліў дабрадушны, немалады шпітальны маёр: "Астынь, хлопец, не мітусіся. Не шукай сваю выратавальніцу." — "Чаму?", — парывіста спытаў Сцяпан, адарваўшы галаву ад падушкі. "Ды таму, галубок, што, паклаўшы цябе ў самалёт, яна груба парушыла сакрэтную інструкцыю, якая строга прадпісвае эвакуіраваць з перадавой паветраным шляхам выключна параненых афіцэраў. Натуральна, лейтэнант медслужбы К. Базарэвіч трапіла ў поле зроку органаў, якія не даруюць нічога. У выніку яна знікла. Не варта больш нікуды пісаць. Ёй не дапамагчы, сябе марна загубіш!"...

У франтавым лёсе салдата Цішчанкі, які працягваўся і па вяртанні ў строй, былі іншыя вызначальныя даты, усе яны незабыўныя. Але ж 10 чэрвеня — самая-самая!

...На пошце Сцяпан Пятровіч хутка атрымаў грошы, заплаціў за тэлефон і кватэру, купіў некалькі свежых газет. Светлая гандлёвая зала універсама таксама сустрэла падкрэсленым малалюддзем. Сцяпан Пятровіч нетаропка напакаваў магазінны кошык харчамі, разлічыўся ў касе ля засцерагальнага турнікета, пераклаў набытае ў зашмальцаваны партфельчык, заспакоена рушыў да кафетэрыя. Заўважым, што наш герой ужо як след прытаміўся: ногі цяжкія, спатнелы лоб, чалавеку не па сабе, адным словам. Ён нетаропка абмінуў закратаванае акенца пункта абмена валюты, аточанае, як заўжды, купкай валютчыкаў баксёрскага выгляду, заказаў кубак кавы, начапіў на нос акуляры, прысеў за пусты столік з белага пластыку. Дастаў газету, збіраючыся перадыхнуць. Абсалютна нічога, здаецца, не насцярожвала, не прадказвала, што літаральна праз хвіліну-другую стары неспадзявана акажацца раптоўна выбітым з каляіны, і што гэта яшчэ — толькі кветачкі...

"Дзед! — патрабавальна загрымела над столікам. — Збірай свае манаткі і знікні. А то, бач, рассеўся, газетку чытае. Змётвайся, каму гавару!" Ашаломлены Сцяпан Пятровіч ускінуў вочы: побач высіўся магутны дзяцюк з бычынай шыяй. "Што вы, малады чалавек, сабе дазваляеце! Я прынцыпова застануся на месцы!", — цвёрда сказаў стары, хоць у яго ад абурэння, ад крыўды ліхманкава застукала ў скронях. Тады бамбіза сарваў з яго галавы шапку, кінуў пад ногі, стаў азвярэла таптаць рабрыстай, тоўстай падэшвай. Наўздагон шапцы паляцелі акуляры старога, бліскучыя шкельцы якіх тонка дзынкнулі пры падзенні, разбіўшыся на кавалачкі.

Сцяпан Пятровіч рэзка ўстаў з адзіным жаданнем плюнуць нахабе ў пысу. Невядома, чым скончылася б сутыкненне, каб не падаспеў галоўны валютчык — больш сталы, знешне падобны да гуляючага хакейнага трэнера. Апошні нешта шапнуў раз'юшанаму бамбізе, той паслухмяна шэфу кіўнуў і хуценька іх пакінуў. "Прабачце, шаноўны, майго калегу. Што зробіш, пастаянныя стрэсы, знерваванасць, бо работа ў нас рызыкоўная. Менавіта за гэтым вось столікам на дзесяць гадзін прызначана дзелавая сустрэча, якая павінна адбыцца без старонніх асоб, — супакойваў "трэнер", падняўшы шапку з падлогі і соваючы пацярпеламу грошы. — Купіце сабе новыя акуляры, ад гэтай сумы вам яшчэ істотны навар застанецца за маральныя страты. Разыдземся па-сяброўску, як разумныя, цывілізаваныя грамадзяне". — "Якія вы мне сябры? Якія вы ўвогуле грамадзяне? Вы — пацукі ненажэрныя!", — з агідай выпаліў Сцяпан Пятровіч, выхапіў шапку і шпарка накіраваў да выхаду. "Трэнер" аж прысвіснуў ад нечаканасці: ад дармавых, лічы, грошыкаў нейкі стары адмаўляецца! Канечне, можна лёгка дагнаць ганарліўца, люта адпомсціць без сведак за "пацукоў". Але штосьці "трэнера" стрымлівала. Шэф у замяшанні таптаўся на месцы, думкі мітусліва наскоквалі адна на адну.

"Мусіць, не памыліўся я, бо чую нюхам: дзядок — не абы-хто. Жменю халяўных грошай не ўзяў, а трымаецца як! Няўжо з колішняй наменклатуры? Тады хана, дзынькне па тэлефоне сябрукам-дружбакам з партмафіі і цёплую нашу кампанію мянты пераловяць, як шэранькіх мышак. Шкада, страцім файную, прыбытковую кропку, якая, зрэшты, не надта дорага каштавала. Трэба дні тры тут не паказвацца, паназіраем за ходам падзей чужымі вачыма. Добра, што праінфармаваць ёсць каму".

...Роўна ў дзесяць-сорак былы палкоўнік, як заведзена, завяршыў ачыстку дарожак. Цяпер ён знаходзіўся на крайнім, памежным са школай, канцы тэрыторыі свайго штодзённага шчыравання. Здалёк палкоўнік здзіўлена заўважыў, што нехта падазрона горбіцца пры ягоным пад'ездзе. Чаму, спытаеце, "здзіўлена"? А таму, што штатныя тутэйшыя валацугі, аматары расціснуць пляшку ў вольных, так бы мовіць, умовах на уласнай шкуры не раз адчулі цяжар прафесійнай рукі адстаўнога палкоўніка Балабана. "Ну, зараз і ўмажу залётнаму дурню-п'янтосу, век мяне будзе памятаць!", — задаволена абнадзеіў сябе экс-турэмшчык, мацаючы тоўсты канец міліцэйскай гумавай палкі, схаванай у правай халяве бліскучафарсістых, зробленых у свой час на спецыяльны заказ, хромавых ботаў. Падбег — і расчараваўся да роспачы хоць рэшткі валасоў на галаве рві, бо на лаўцы сядзеў зусім збялелы Сцяпан Пятровіч. Сусед дыхаў з прысвістам, зняў шапку, расшпіліў паліто. На пытанне "Што здарылася?" стары, маючы вострую неабходнасць падзяліцца хоць з любым больш-менш знаёмым сустрэчным, сцісла паведаміў аб нядаўняй універсамнай прыгодзе. Дадаў, што хадзіў ужо ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі, дзе, праўда, яго не даслухалі, зняважліва абарваўшы: галоўная зараз задача ў органаў — барацьба з тэрарызмам, з палітычнымі правакацыямі, з карупцыяй, з арганізаванай злачыннасцю. А ў дадзеным, маўляў, выпадку неакрэслена праглядаюцца сякія-такія бяздоказныя, не вартыя пільнай увагі, слабыя прыкметы дробнага хуліганства... Палкоўнік адразу ўнутрана сціснуўся, насцярожыўся, але ўмела схаваў хваляванне, давёў суседа, які ледзь перасоўваў ногі, да ліфта, параіў неадкладна набраць "03", паляжаць.

Адамкнуўшы дзверы бацькоўскай кватэры сваімі ключамі, сын жахнуўся: стары без памяці ляжаў у паліто на тахце, шапка, партфель валяліся побач... Ачуняў Сцяпан Пятровіч толькі пасля ін'екцыі, калі прыехала брыгада "хуткай". На сынаву просьбу адвезці хворага ў бальніцу медыкі адмовіліся наадрэз: "У пагражальным узросце з сардэчным прыступам у стацыянар яго не возьме ніхто! Як двойчы два! Рызыкаваць зараз каму ахвота... Хоць, вядома, паспрабуйце звярнуцца ў Рэспубліканскі шпіталь інвалідаў вайны, дзе спецыфічны кантынгент хворых і таму верагодны летальны зыход асаблівага значэння для персанала не мае". Зусім не бянтэжыла доктара з фельчаркай, што пацыент апрытомнеў, што ён усё чуе. Гадзіны са дзве сын абрываў тэлефоны, маліў, каб са шпіталя тэрмінова прыслалі машыну. Нарэшце на другім канцы провада абнадзеілі: "Чакайце, прыедзем".

"Сынок, — ціха звярнуўся Сцяпан Пятровіч. — Пакуль мы адны, хачу сказаць сёе-тое. Не панікуй, але ж я адчуваю, што назад мне ўжо не вярнуцца. Нават упэўнены ў гэтым. Што б ні напісалі ў маім заключным дыягназе, ведай: паставіла мне сёння падножку, зжыло са свету наша паскудна-нязводнае, але катэгрычна мной непрымальнае хамства, ад якога чалавек хіба што толькі ў магіле можа схавацца".

...Назаўтра, роўна ў шэсць-сорак, у кватэры "трэнера" зазвінеў тэлефон. Зняўшы трубку, гаспадар атрымаў аператыўную справаздачу: "Турбуе палкоўнік Балабан. Шэф, прабачце, што рана, але толькі цяпер я заспакоены канчаткова. С. П. Цішчанка, дзядуля з універсама, з кім вы мелі ўчора выпадковае непаразуменне, — звычайны пенсіянер, чалавечак ціхі, бяскрыўдны, інтэлігентык-дзівак. Вы дарма хваляваліся. У рэанімацыі шпіталя інвалідаў вайны ён гадзіну таму памёр. А ў пятым гараддзяленні міліцыі ўчора пісьмовай заявы яго не прынялі, бо наконт верагоднасці падобных зваротаў там загадзя мной папярэджаны. Значыць, можаце хоць сёння зноў спакойна выходзіць на працу. Ва універсаме ўсе чыста, як і на астатніх нашых аб'ектах. Ва ўсім мікрараёне сітуацыя знаходзіцца пад нашым неаслабным, надзейным кантролем. Удачы вам, шэф!"

ФЕСТЫВАЛІ

## Магілёўскі "Каптурок" у Нарвегіі

Напрыканцы 21-га тэатральнага сезона група магілёўскіх лялечнікаў на чале з мастацкім кіраўніком тэатра А. Жугждам вярнулася з нарвежскага горада Бергена. Магілёўскі абласны тэатр лялек браў удзел у чарговым Міжнародным тэатральным фестывалі. Фестывалі даволі прэстыжным (дзеля яго адкрыцця спецыяльна прыязджалі кароль з каралевай), з шырокай геаграфіяй краін удзельнікаў: ад Кітая да Англіі.

Фестываль у Бергене з'яўляецца сапраўдным тэатральным святам: у ім удзельнічаюць драматычныя, музычныя, лялечныя тэатры (апошнія ствараюць уласны дзіцячы мікра-фэст). Фестываль праходзіць па традыцыйнай еўрапейскай сістэме (кожны ўдзельнік карыстаецца магчымасцю выступіць не больш за чатыры разы) і працягваецца 12 дзён.

Чатыры вечары запар на сцэне маленькага плавучага тэатра-карабля зазналі глядацкі поспех магілёўскія лялечнікі. "Чырвоны Каптурок" — міні-опера кампазітара Паўла Кандрусевіча ў пастаноўцы і па лібрэта Алега Жугжды з лялькамі Ларысы Мікінай прыйшлася да густу і маленькім і дарослым бергенцам. Найвялікшы поспех выпаў на долю Мікалая Сцешыца, выканаўцы партыі маркіза дэ Ваўка (з нагоды дня нараджэння артыст атрымаў рэцэнзію на спектакль са сваім партрэтам у якасці падарунка).

"Чырвоны Каптурок" крытыкі адзначылі ў чатыры балы. Няблага для правінцыйнага тэатрыка, калі ўлічваць, што спектакль нацыянальнай драматычнай сцэны за фестывальны спектакль атрымаў "пяць"...

А 31-га мая Магілёўскі тэатр лялек закрыў свой тэатральны сезон чарговай прэм'ерай: "Казкай пра трох парсючкоў" па п'есе Лора Лі. "Пікнік на англійскім газоне паводле англійскай казкі на англійскай мове" ў выкананні акцёраў Галіны Барысавай, Наталлі Віктаравай, Ларысы Мікуліч, Міхася Беланожкі, Васіля Прабадзяка ды, зноўтакі, Мікалая Сцешыца прайшоў, як заўсёды, пры паўнюткай зале.

А. В.

## Конкурс у Лідзе

У Лідскім музычным вучылішчы адбыўся ўжо традыцыйны конкурс юных музыкантаў. Ён носіць імя нашага земляка, сучасніка П. Чайкоўскага, вядомага скрыпача К. Горскага.

Спаборнічаюць навучэнцы, якія вучацца ігры на розных інструментах, і тыя, якія спецыялізуюцца па тэорыі музыкі. У конкурсе бяруць удзел школы Лідскага метаб'яднання. Для навучэнцаў і выкладчыкаў гэта вельмі адказнае мерапрыемства. Праводзяцца свае адборачныя конкурсы, старанна падбіраецца праграма. Ды й сама паездка на такое спаборніцтва, а тым больш перамога ў ім — вялікі гонар.

Сёлета ў Ліду з'ехалася 140 выканаўцаў на народных інструментах з 26 школ. Было прадстаўлена 6 спецыяльнасцей: баян, акардэон, домра, балалайка, цымбалы, гітара (выканаўцы на гэтым інструменце былі прадстаўлены ўпершыню). Навучэнцы былі падзелены па інструментах (клавішныя і струнныя народныя інструменты) і па ўзросце — старэйшая і малодшая групы. Адпаведна працавалі два журы (старшыні — кіраўнікі народнага аддзялення ЛМВ А. Догілева і М. Саўко). Агульную арганізацыю конкурсу ўзялі на сябе завуч ЛМВ Е. Сечка і загадчык метадкабінета Г. Дрозд.

Досыць строга і аб'ектыўна да выяўлення пераможцаў падышлі абодва журы конкурсу. У адпаведнасці з узроўнем выканальніцтва не ўсе месцы былі прысуджаны. Як і чакалася, узровень падрыхтоўкі вучняў у базавай ДМШ г. Ліды аказаўся вышэйшы. Але трэба адзначыць і ўдачы дзяцей з СШ N 5 з музычным ухілам са Смаргоні, Карэлічаў, Дзятлаўскай, Ашмянскай ДМШ, ДМЭШ "Панарама" з Ліды. Парадавалі юныя музыкі і са школы мястэчка Цырын, вёскі Жукаўшчына, Дзятлаўскага раёна, вёскі Беняконі Воранаўскага раёна.

Абгаварэнне і высновы па выніках конкурсу, думаю, стануцца стымулам у рабоце і выкладчыкаў, і дзяцей.

Скажу і пра людзей, без якіх не адбыўся б гэты конкурс, — пра спонсараў, якія забяспечылі яго матэрыяльную базу. Гэта цэлы шэраг прадпрыемстваў Ліды: АТ "Будматэрыялы" (генеральны дырэктар П. Новікаў), ПЧ чыгункі (начальнік С. Кузняцоў), АТ "Лакафарбы" (дырэктар Н. Славуты), камбінат хлебапрадуктаў (дырэктар С. Вішнеўскі). Узнагароды навучэнцам і выкладчыкам ад абласнога ўпраўлення культуры ўручыў галоўны спецыяліст аддзела навучальных устаноў С. Матлевіч.

Н. ГАНУЛ,
выкладчык Лідскага музычнага вучылішча

# Так спеўна, так гасцінна — толькі тут!

## "Маладзечна-98"

### ЖЫВЫ ГУК

Калі зыходзіць з таго, што слова "фестываль" у перакладзе з латыні азначае "вясёлы", то свята беларускай паэзіі і песні "Маладзечна-98" трэба лічыць адпаведным гэтаму сэнсу. Народ павесяліўся і, мяркуючы па водгуках, застаўся задаволены. А інакш, напэўна, і быць не магло. Гэта Мінск распешчаны рознымі канцэртамі, імпрэзамі, чаго не скажаш пра іншыя гарады. Таму была б нагода, а аматары прыемнага баўлення часу заўсёды знойдуцца.

Нават дакучлівы акампанемент дажджу, які суправаджаў усе тры фестывальныя дні, не спалохаў публіку. Глядзельная зала пад адкрытым небам на цэнтральнай плошчы Маладзечна была поўная кожны вечар. Гледачы шчыра і даволі цёпла віталі ўсіх удзельнікаў свята, нават калі некаторыя з іх не былі гэтага вартыя. Дарэчы, у капрызах надвор'я ёсць і станоўчы момант. Гэта — нібы своеасаблівая праверка на трываласць, на цікавасць да падзеі. Ну, а вартасць і прафесіяналізм кожнага артыста выявіла галоўная ўмова і дэвіз фестывалю — жывы гук.

Умову гэтую мусілі прыняць як артысты-пачаткоўцы, так і зоркі. Таму чакалася, што прыезд некаторых вядомых, нават папулярных выканаўцаў, для якіх выступленне пад фанаграму справа звычайная, — не адбудзецца. Ды дзе там! Ці то адмаўляцца ўжо было позна, ці то сілы пераацанілі, ці то самаўпэўненасць зрабіла сваю справу, але прыехалі амаль усе, хто хацеў удзельнічаць у фэсце. Натуральна, вынік быў нечаканы, відовішча атрымалася забаўнае.

Трэба аддаць належнае публіцы. Яна трывала гэтыя музычныя "блуканні па пакутах" некаторых нашых зорак. У нейкім сэнсе можна паспачуваць музыкантам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і яго кіраўніку М. Фінбергу, якія акампанавалі ўсім выступоўцам і нярэдка мусілі слухаць тое, што адмаўляліся ўспрымаць вушы.

Як вядома, Міхал Якаўлевіч Фінберг, мастацкі кіраўнік фестывалю, і настояў на тым, каб увесь фестываль прайшоў пад дэвізам "жывы гук", не згадзіўся ні на якія кампрамісы. І гэта — выдатна! Бо ўсе артысты былі ў аднолькавых умовах. Вось у выніку і аказалася, што нават самыя маладыя салісты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра — большыя прафесіяналы, чым нашы некаторыя "раскручаныя" зоркі. Бо ўсе салісты калектыву Фінберга, нягледзячы на розныя вакальныя магчымасці, выконвалі асноўную ўмову спеваў: чысціню інтанацыі і выкананне ў танальнасці. Такім чынам, будзем спадзявацца, што некаторыя вядомыя і нават тытулаваныя артысты ўсё ж адчулі згубнасць выкарыстання фанаграм у сталай канцэртнай практыцы: гэта ўрэшце завяршаецца прафесійнай бездапаможнасцю. Вось ён, нягледзячы на пікантнасць сітуацыі, станоўчы момант. Хацяў мо не ўсім салістам было прыемна, што назва заключнага гала-канцэрта "Зоркі маёй краіны" прагучала ў дачыненні да іх з іранічным падтэкстам.

Ну, а што да сапраўдных зорак, то на агульным фоне прыемным і прыгожым было выступленне саліста Нацыянальнага тэатра оперы Рыгора Палішчука, які выканаў песню Валерыя Іванова. Гэтым ён падтрымаў модныя апошнім часам на Захадзе сярод акадэмічных спевакоў павевы — увагу да так званай лёгкай эстраднай музыкі. Яшчэ ў вялікай партытуры кульмінацыйнага канцэрта "Зоркі маёй краіны" ярка вызначаліся галасы народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі і заслужаных артыстаў, салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Якава Навуменкі ды Мікалая Скорыкава.

Паколькі галоўная адметнасць сёлетняга фестывалю — прынцып "жывы гук" — асабліва выявіла сваю актуальнасць у апошні дзень свята, з гэтага ўражання я і пачала аповед. А далей, шаноўны чытач, мы пойдзем у адваротным парадку.

### РОК-УРОК

Другі дзень фестывалю "Маладзечна-98" вызначыўся адметнасцю, якая хвалявала ўяўленне ўжо сваёй задумай. Сапраўды, як гэта можна спалучыць у адной праграме, у адным канцэрце два зусім розныя стылі: народную песню, прычым у яе акадэмічным варыянце, і рок-музыку? Аднак на адной сцэне ў той вечар сышліся Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча і вядомыя беларускія рок-гурты. Гэта была спроба паказаць, што народная песня і рок могуць існаваць у добрай згодзе. На жаль, спроба не зусім пераканальная. Чакалася, што ў яе аснове будзе нейкі інтрыгуючы сцэнічны сюжэт. Адбылося ж чаргаванне нумароў, праз якое проста немагчыма нават драматургічна аб'ядаць такія неспалучальныя рэчы. Напрыклад, пасля бяздумнага і агрэсіўнага выканання групай "Тарнада" песні "Касіў Ясь канюшыну" не толькі слухачам было цяжка пераключыцца на ўспрыманне народных спеваў: самі ўдзельнікі хору выглядалі, мякка кажучы, збянтэжанымі, калі не сказаць — абуранымі. І нават здавалася, што гэтае вымушанае суседства з рок-камандамі адмоўна паўплывала на іх уласнае выступленне.

Даволі ўдала ўпісаліся ў кантэкст задумы групы "Крыві" і "Палац". Дык жа не дзіва! Бо свае кампазіцыі яны будуюць на аснове фальклорных мелодый і заўсёды выкарыстоўваюць жывыя музычныя інструменты, у тым ліку й народныя: а што гэта актуальна і мае поспех у моладзі, паказаў той фестывальны канцэрт, дзе групы "Крыві" і "Палац" мелі самы цёплы прыём. Не надта дысаніравала ў агульным сугуччы вечара і група "Крама". Было хоць зразумела, пра што музыкі спяваюць, і прыемна, што імкнуцца ўнесці ў выкананне разнастайнасць праз сольныя інструментальныя імправізацыі.

Што да астатніх гуртоў, то ўзнікае пытанне: увогуле, ці ведаюць яны, што такое сапраўдны рок? Бо тое, што гучала, знаходзіцца па-за межамі стылю і цяжка падабраць гэтаму дакладнае азначэнне. Напэўна, трэба ім часцей слухаць класіку — добрыя старыя рок-балады, напрыклад. Мо трэба нават штосьці пераймаць — бывае, ідзе на карысць. У агульным рок-непрафесіяналізме зусім недарэчна гучалі тытулы, якімі шаноўны вядучы канцэрта апярэджваў выступленне некаторых гуртоў. Усе мы ведаем рок-каралёў Фрэдзі Мерк'юры і групу "Куін", Эрыка Клэптана, "Ролінг Стоўнз"... І застаецца толькі здагадвацца, як сябе адчувае ў гэтай тытуланай кампаніі салістка групы "Хаста ла фіЄста" сёлетняя беларуская рок-князёўна Крысціна Мендзялеева, спевы якой на фоне гучання інструментаў вызначаліся дзівоснай... атанальнасцю. Ці, можа, так трэба? Гэта такі адмысловы беларускі рок?

Хацелася б, каб рок таксама атрымаў урок — усяму трэба вучыцца і прынцып "што бачу, пра тое і спяваю" і як хачу, так і спяваю — не для прафесійнай сцэны. Натуральна, выступленне Акадэмічнага народнага хору, нягледзячы на тое, што моладзь успрымала рок-гурты з большым энтузіязмам, было па-за канкурэнцыяй.

### ІМЁНЫ

Праграма кожнага дня свята інтрыгавала сваёй задумай. Але галоўная інтрыга фэстаў такога кшталту — усё ж адкрыццё талентаў. Таму мы з вамі вяртаемся ў першы дзень: тады адбыўся конкурс маладых выканаўцаў. Шчыра кажучы, склад яго ўдзельнікаў не надта хваляваў уяўленне. У асноўным усе выступалі роўна, сенсацыйных адкрыццяў не адбылося. Многія ўдзельнікі конкурсу ўжо вядомыя па розных песенных святах: "Зорная ростань", "Усе мы родам з дзяцінства", "Тэлебом"... Што да агульных уражанняў, дык у выступленнях канкурсантаў адчувалася нейкая вялаць: магчыма, з-за дажджлівага надвор'я, магчыма, спаборнікі не атрымалі належнага творчага імпульсу, які б наэлектрызаваў атмасферу. Так што напружанай конкурснай барацьбы не было, а лідэры вызначыліся ўжо адразу.

"Гран-пры", як вядома, атрымала салістка ансамбля "Верасы" і Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады, вучаніца Васіля Раінчыка Вікторыя Алешка. Яна адразу звярнула на сябе ўвагу моцным прыгожым голасам з багата афарбаваным тэмбрам. Пры добрых занятках В. Алешка можа дамагчыся сур'ёзнага поспеху. Асноўнае, што хацелася б пажадаць ёй на сённяшні дзень, — гэта набыць свой рэпертуар, які б асацыяраваўся толькі з яе асобай, толькі з яе вобразам. (Такіх песень пакуль што бракуе.)

Яшчэ адзін удзельнік конкурсу, які ярка сябе паказаў, — Аляксандр Зявяровіч (Гродна). Ён заняў першае месца. Адпаведна свайму паходжанню Аляксандр мог бы паспяхова спяваць цыганскія песні і рамансы, але ж ён вырашыў звязаць свой творчы лёс менавіта з беларускай музыкай. Зноў жа, тут хаваецца пэўная інтрыга. Яна ў тым, што традыцыйную памяркоўнасць, якая адчуваецца ў нашых песнях, крыху "падагрэе" каларытны цыганскі тэмперамент. Пасля фэсту ў Маладзечне Аляксандр Звяровіч выпраўляецца ў Ялту — таксама на конкурс маладых выканаўцаў, толькі ўжо міжнародны. Застаецца пажадаць яму спадарожнага ветру і вяртання з перамогай.

Сярод удзельнікаў маладзечанскага конкурсу можна вылучыць і магіляўчаніна Антона Ажыпу, які запомніўся імкненнем да імправізацыйнага стылю, што, праўда, не так ярка выказвалася, а хутчэй угадвалася. Даволі ўдала выступіла Ірына Сапяжынская, таксама спявачка з Магілёва.

Усе сёлетнія лаўрэаты атрымалі каштоўныя падарункі, пераважна аўдыётэхніку, — самае, бадай, патрэбнае для музыкантаў.

### У ЧАКАННІ НОВАГА СВЯТА

Тры фестывальныя дні для некаторых удзельнікаў былі шчаслівыя, для некаторых — напружаныя, а магчыма, не зусім прыемныя. Але для ўсіх, бясспрэчна, хвалюючыя. Магічнае адценне лічбы "тры" адлюстравалася на сэнсе свята. У ім спалучыліся тры жанры: эстрадная песня, народная і рок-музыка. Аб'яднала ж усіх — беларускае слова, бо ўсё, што гучала ў канцэртах, выконвалася толькі на роднай мове. І гэта, бадай, адно з самых галоўных дасягненняў свята. Прытым, у назве сёлетняга фэсту акцэнт быў зроблены ў першую чаргу на паэзію. Так, усе песні выконваліся па-беларуску. А яшчэ ў праграме фестывалю бралі ўдзел вядомыя нашы паэты — Уладзімір Карызна, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Някляеў...

Нельга не прыгадаць і праграму "Спяваем з аркестрам...", у якой удзельнічалі пераможцы І-га Беларускага фестывалю дзіцячай эстраднай песні, і выступленне Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча.

Невялікі агляд праграм "Маладзечна-98" завяршу... надзеяй. Надзеяй на тое, што, нягледзячы на шэраг арганізацыйных і творчых праблем, свята ўсё ж усталюе свае пазіцыі і стане сапраўды нацыянальнай падзеяй. Хацелася б, каб фестываль адкрываў новыя імёны не толькі выканаўцаў, але і кампазітараў, паэтаў, каб гучалі ў асноўным новыя песні, якія б не толькі адпавядалі духу часу, але, магчыма, і апярэджвалі яго. І каб сам конкурс быў добрым і прэстыжным стартам для яго ўдзельнікаў на шляху прафесійнага станаўлення.

Значнасць любога свята падкрэслівае яго мастацкае афармленне. Маладзечанскі фестываль і пачаўся, і скончыўся феерверкам. Стракатыя вогненныя кветкі, што азарылі начное неба над горадам пасля апошняга канцэрта, падарылі надзею на працяг свята. Будзем чакаць...

**Таццяна ЯКУШАВА**

# Успаміны, мроі, згадкі

*Светлай памяці*
*Ф. М. ЯНКОЎСКАГА*
*прысвячаецца*

## "У мяне грошы ёсць..."

Мой незабыўны, светлы розумам, душой, думкамі настаўнік Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі... Удзельнік вайны з белафінамі і Вялікай Айчыннай. Нязменна пісаў абразкі. І не толькі пісаў, але і сам часта ствараў "абразковыя сітуацыі..."

У Таліне. На сімпозіуме, па-іншаму — канферэнцыі. У саменькі "застойны перыяд". Толькі-толькі ўладкаваліся, распакавалі сумкі і нават не паспелі параскладваць па тумбачках рэчы, як з'яўляецца малады, энергічны чалавек. Праграма на заўтра (гэта акрамя дакладаў, афіцыйнай часткі):

— Дзень добры, шматшаноўныя. Выбірайце мерапрыемствы на заўтра: фінская лазня, вар'етэ, наведванне старажытнага замка.

Мой настаўнік, хвіліну счакаўшы, кажа сваё чарговае "залатое слоўца":

— Лазня нам непатрэбна: перад ад'ездам мыліся. Не толькі фіны, але і беларусы тут тое-сёе могуць. Вар'етэ? Нам з табой, Мікола, яшчэ рана вар'яцець. А вось замак наведаем. Пішыце мяне і яго.

Менеджэр называе суму за наведванне. У мяне, голенькага асістэнціка з акладам у 105 рублёў, вочы на лоб палезлі. А настаўнік зноў непаспешна дастае грошы, плаціць за абодвух. Пасля таго, як спрытны малады чалавек пакідае наш нумар, кажа да маёй асобы:

— Ты, Мікола, не хвалюйся. У мяне грошы ёсць. Пажывеш-паробіш столькі, сколькі я, і ў цябе будуць.

Яшчэ і сёння, ужо аўтар больш дзесяці сваіх і сааўтар не меншай колькасці кніжак, памятаю яго словы. Як і тую амаль асістэнцкую зарплату, якую ён вылажыў са сваёй кішэні, каб я мог паглядзець на свае вочы старажытны замак, сустрэцца і пагаварыць з вядомымі людзьмі, паверыць у сябе, у свае здольнасці і магчымасці.

## Купляем лізікі

У тым жа Таліне, перад ад'ездам дадому. Пытаецца, клапатліва, як бацька:

— Ты, Мікола, усё купіў сваім? Я амаль усё: і Серафіме Андрэеўне, што наказвала, і Іне, і Толіку. Вось толькі ўнучку Юрасіку не купіў яшчэ л і з і к а ў. Хадзем, паглядзім якіх цікавейшых, у прыгожай вопратцы.

Здзіўлены ўпершыню пачутым слоўцам, перапытваю:

— Фёдар Міхайлавіч, чаго паглядзім-пашукаем? Якіх лізікаў?

Паглядзеў на мяне касавура: "Цёмны чалавек гэты вучань! І як толькі яго зямля носіць?"

— Ды цукерак, кажу, ледзянцоў ці як іх там. Ну тых, што лізаць доўга трэба.

Рагачу на ўвесь пакой, колькі разоў хапаюся за бакі і на вуліцы. Крочыць крыху наперадзе (не магу ж я сігаць паперадзе свайго паважанага настаўніка?), задаволены, што пацешыў недасведчанага і неасвечанага чалавека, выхаваў яго ў каторы раз словам, якое "само гаворыць". Касавурыцца перастаў, адтаў, пачуўшы шчыры, малады смех.

## "Ты ж не парабак, а дацэнт..."

Позні тэлефонны званок. Настаўнікаў.

— Ну, як ты там жывеш? Ведаю, што цесна, спачуваю. Як твая новая кніжка? Не закончыў пісаць? Лайдак! Даю тыдзень часу. Як усё зробіш і панясеш у выдавецтва, патэлефануй. (Ведаю, што папярэдне патэлефануе сам, ахарактарызуе свайго вучня лаканічна і ёміста: — Друкуйце. Не пашкадуеце.). Крыху счакаўшы, пытаецца:

— Мікола, у цябе ёсць дрэль?

— Ёсць, Фёдар Міхайлавіч.

— Дык заўтра прынясі. Мне тут у шафе Серафіма Андрэееўна загадала тры (а можа, і чатыры) дзюркі пракруціць. Не пракручу — жыцця не будзе. Праўду кажу.

Назаўтра пад вечар перадаю дрэль. Цяжкаватая, але з ручкай, таму і несці зручна. Мой настаўнік бярэ яе ў правую руку (загортваць у паперыну і класці ў цэлафанавы ці які іншы мех катэгарычна адмовіўся), падвольна і горда крочыць па калідоры:

— Хай усе бачаць, што і я працую не толькі над рукапісамі, а і па гаспадарцы нешта магу.

Ведаючы характар Янкоўскага, калегі нязлосна ўсміхаюцца: чарговае маленькае дзівацтва, дзеля асвятлення цяжкага жыцця святлом гумару, маленькай радасці. Мне ж няёмка "з голымі рукамі". Іду і, як заведзены, кленчу:

— Фёдар Міхайлавіч! Мне брыдка і няёмка: вы са струмантам, а я — без нічога. Ды і цяжка вам: руку ж памяняць нельга (у партызанах яшчэ была прастрэлена аўтаматнай чаргой яго левая рука, колькі асколкаў насіў у целе гады і гады).

— Пачакай, не канюч. Вось выйдзем з інстытута і як ніхто не будзе бачыць, аддам. Ты ж не парабак, а дацэнт...

І тут думаў не толькі пра сябе, а і пра свайго вучня, пра яго рэпутацыю, імідж. Баяўся-непакоіўся, каб зласліўцы не назвалі таго лакеем, паслугачом.

## Каб не забыцца

Клопатаў у настаўніка было шмат. Кафедра вялікая, аспіранты. Амаль усе — яго. Усе і абараняліся. Кожны дзень трэба было браць "на службу" сама меней тры-чатыры рукапісы. У такіх выпадках кожны паступае па-свойму, каб чаго не забыцца. Нехта, да прыкладу, гадуе дыпламат з вечара, дапытваецца ў блізкіх, дзе што адшукаць. Некаму ўсё, што трэба, пакуюць клапатлівыя спадарожніцы, верныя сяброўкі ў жыцці — жонкі. У настаўніка майго было надзвычай своеасаблівая методыка: у доўгім калідоры (ранейшая кватэра па Паркавай магістралі, пазней перайменаванай у праспект Машэрава) кідалася на падлогу тое, што трэба было назаўтра браць з сабою. Усё проста: раз замінае, трэба падняць, прагледзець, спакаваць у дарогу.

Неяк зайшоў — уся падлога ў паперчынах, адно дзе-нідзе дробненькія плямінкі-прагалінкі. Як бусел, то адной, то другой нагой вырульваю на чыстую дзялянку за ім. А ён крочыць смела (відаць, не ўпершыню) і прыгаворвае:

— Ідзі за мной, не прыглядвайся. Мы ж у насках, не папэцкаем усю гэтую пісаніну.

Пытаюся:

— Фёдар Міхайлавіч, што гэта за напалеонаўскае войска тут прайшло? А можа, татара-мангольскае нашэсце?

— Ты вось не разумееш, што да чаго. Заўтра ў мяне сустрэча з аспірантамі, рукапісаў шмат, то я і паскідаў іх на падлогу, каб не забыцца.

— І гэтак вы кожны раз робіце?

— Не, толькі калі застаюся адзін, калі Серафімы Андрэеўны няма. Як яна дома, то забараняе, сама ўсё адшуквае ды пакуе.

"Адшуквае ды пакуе"... Што мы значым без нашых серафімаў андрэеўнаў? Няўмекі-недарэкі. Неўставакі ў складаных бытавых, надзённых пытаннях.

## Да яго на заняткі хадзілі ўсе

Быў студэнтам другога курса. Купалаўскім персанальным стыпендыятам (давялося быць і сталінскім, і ленінскім). Порсткім, непрымірымым да негатыву. Пад негатыў падпадала і гісторыя старажытнай мовы, гістарычная граматыка. Вось і вытыркнуўся аднойчы на занятках перад настаўнікам. А вёў ён тады якраз гістарычную граматыку беларускай мовы. Бліскучыя лекцыі па памяці. Адно толькі асобныя прыклады з карталюшак. Малады, як той пеўнік, крыху крыклівы і абсалютна нявопытны, не дыпламат (колькі таго вопыту ды той дыпламатыі пасля вясковай сярэдняй школы — кот наплакаў) у канцы заняткаў задаю пытанне:

— Фёдар Міхайлавіч, нам жа гістарычную граматыку рускай мовы чыталі, нашто яшчэ і беларускай — многае ж паўтараецца?

А вучыўся я па шырокім профілі. Асобныя курсы, сапраўды, дубліравалі тэмы, праблемы. Ды таго не ведаў, што ёсць зацверджаныя вучэбныя планы вышэйшымі інстанцыямі, што не ад аднаго майго настаўніка залежала іх карэкціроўка. Не ведаў, ці тактоўна задаваць падобныя пытанні выкладчыкам, закаханым у свой прадмет, адданым яму без астатку. А ў дадатак удрукаваў пытанне яшчэ пажаданнем — даваць нам больш сучаснай мовы і літаратуры. Рэвалюцыянер знайшоўся! Яйка куру вучыць: як жа, канец 50-х гадоў, хрушчоўская перабудова, культ асобы выкрылі, можна ўсе гаварыць! Усе, бачыш, пасмялелі!

Не помню, як ён мяне "брыў", якія факты прыводзіў на карысць гісторыка-лінгвістычных дысцыплінаў. Адно і цяпер не забыўся, з якім жахам глядзелі на мяне аднакурснікі, нібы гаворачы:

— Усё, браток, хана табе!

Ханы не было. Але "рэабілітацыю" праходзіў, калі не памыляюся, цэлых два семестры, і на экзамене адчуваў сябе пад поглядам настаўніка, як пад шпіцрутэнамі.

На заняткі да яго хадзілі ўсе. Нават дзяжурныя ў інтэрнаце: адпрошваліся, заменьваліся. Не толькі таму, што настаўнік быў строгі, усіх помніў у твар. А таму, што на занятках было цікава, карысна, напружана. Панавала атмасфера сапраўднага навуковага пошуку, крынічыла супольнасць душ, розумаў, сэрцаў.

Праз гады гляджу на ўласныя спробы заваяваць давер студэнтаў, іх павагу, як на спробы карліка ўзвысіцца да яго, асілка ў гэтай справе.

Не люблю абыякавых лектараў (мой настаўнік часта прамаўляў "Лепш ніякі, чым абыякі"), выкладчыкаў, якія кампенсуюць няўвагу да сябе пяцёркамі на экзаменах. Ім думаецца, што тым самым яны выклікаюць любоў і заваёўваюць аўтарытэт. Але студэнты — народ разумны, пераважна інтэлектуальны. Яны толькі смяюцца з падобных пяцёрак, выстаўленых за невуцтва, за пропускі заняткаў.

Да яго на заняткі хадзілі ўсе. Парушыць іх ход, іх свяшчэннадзейства ніхто не мог. Нават намеснік міністра, які аднойчы асмеліўся прыадчыніць дзверы ў аўдыторыю і паклікаць лектара, у адказ пачуў:

— Зачыніце дзверы! Не перашкаджайце нам займацца!

## "Перадаю ў чыстыя рукі..."

Дамовіўся, заключыў пагадненне з выдавецтвам "Мастацкая літаратура" на выданне другога паэтычнага зборніка з трохі кідкай і прэтэнцыёзнай назвай — "Трывожуся за белы свет". Настаўнік даведаўся пра гэта, распытаў, калі нясу ў выдавецтва рукапіс. Перамовіліся, падзяліліся думкамі наконт назвы і іншых дэталяў. Папрасіў (любую просьбу яго лічыў загадам, ведаў, што не даруе абыякавых адносінаў да яе) зайсці таго дня, як буду несці свае старонкі на суд.

Папярэдне патэлефанаваў. Зайшоў. Адчыніў дзверы сам. Серафімы Андрэеўны на тую хвіліну не было.

— Праходзь. Ды смялей — ты ж не ў чужых людзей. Пачакай крыху. Зірні Чаротаў двухтомнік: табе падрыхтаваў, перадаю. Мне ён цяпер без патрэбы, а ты нешта ж пра яго пішаш. Мовы ў яго няма. Слабы мастак. Не надта захвальвай. А я тым часам расшукаю і свае старонкі: Валодзю заадно занясеш.

Сяджу. Разглядаю алавіковыя заўвагі на палях двухтомніка. Дробны, "бісерны" почырк. Цяжка такі расчытваць. Падкрэслены асобныя небеларускія словы і выразы, нават цэлыя сказы. Сапраўды, мову сваю родную Міхась Кудзелька ведаў слаба. Спіной чую праз ладную адлегласць:

— Валодзя, дзень добры. Як жывеш? Даўно не бачыліся. Працуеш побач, заходзь. Трошкі акрыяю, выбяруся да вас і я. Я быў вінен табе старонкі. Сам не магу прынесці. Але перадаю іх у чыстыя рукі: Мікола Мішчанчук прынясе. І мае, і свае. Зразумеў? То дзякуй табе за ўсё.

Валодзя Паўлаў, хлопец з Замошша, са Случчыны (усе мы — з хат) быў уважлівы і шчыры да пачынаючага аўтара. Рукапіс прынялі. Зборнік, поўны трывогі за "надвое расколаты свет" (Н. Тулупава), выдалі.

Праз гады зразумеў, што перадачу яго старонак у "Мастацкую літаратуру" мой настаўнік дыпламатычна "арганізаваў". Гэтую сваю справу ён і пазней развязаў бы. Самастойна. Скарыстанне мяне ў якасці "дыпкур'ера" — гэта прыём, што меў мэтай, каб выдавецкія зубры звярнулі на яго малавядомага вучня ўвагу, каб дапамагчы сарамліваму хлопцу з урослай у зямлю вясковай хаты "выйсці ў людзі", не закрануўшы яго гонару.

Колькім людзям ён так тактоўна, па-разведчыцку, па-партызанску непрыкметна дапамагаў Малажай Галіне, Гаўрош Ніне, Трыпуцінай Тамары, Бекішу Віктару, Аляхновічу Міколу, Рабкевічу Валянціну, Каўрусу Алесю... Іх кнігі, артыкулы ішлі з яго блаславення.

Нехта гэта помніў і помніць. Нехта забываўся і забываецца, што без яго не было б пачатку, не было б кніжкі ці (калі не ленаваўся) кніжак. Ён усё прадбачыў зараней. Даваў аспірантам тэмы перспектыўныя. Не прыніжаў годнасць калег, якім прапаноўваў сааўтарства. З часам сааўтары станавіліся аўтарамі. Усё ішло сваім чарадом, як паглядзець збоку, — дык як па добра адладжаным канвееры. Але сапраўдным "маторам" гэтага канвеера быў ён, мой (і наш) настаўнік Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі.

## "Любіў дапамагаць людзям простым, вясковым..."

Любіў дапамагаць людзям простым, вясковым хлопцам і дзяўчатам. Недавучаным у невялікіх драўляных школках (адразу сам пасля вайны рабіў у такіх), не з бліскучымі, а звычайнымі, сярэднімі ведамі, але затое сумленным, непранырлівым. Не паважаў падхалімаў, угоднікаў, людзей безадказных, не гаспадароў свайго слова, двудушных, зайздросных.

...Маладзенькі, без сувязяў у навуковых колах аспіранцік (да таго ж — не з яго кафедры) збіўся з ног, шукаючы першага апанента па рэдкай для Беларусі навуковай спецыяльнасці — руская літаратура першай палавіны XIX стагоддзя. Хоць нешта ж маглі параіць яму супрацоўнікі яго роднай кафедры, але апанента знайшоў ён — вядомага за межамі рэспублікі выдатнага спецыяліста, прынцыповага, але памяркоўнага да сумленных людзей чалавека. І малады асістэнцік быў удзячны свайму настаўніку і будзе ўдзячны яму ўсё астатняе жыццё.

...Палескі хлопец са Століншчыны. Цяжка пісалася дысертацыя ў завочнай аспірантуры. Шмат грошай было затрачана на паездкі ў бібліятэкі ў Мінску і за Мінскам. Ніводнага людскага адпачынку не было: каб можна было набрацца сілаў, паправіць здароўе і зрабіць што людскае для сям'і. Як толькі жонка трывала такое! Не стала кіраўніка, і пачаліся праблемы з абмеркаваннем на кафедры, з пошукам апанентаў, месца абароны. Усе праблемы разам зняў незабыўны, светлы, родны Фёдар Міхайлавіч. Бліскуча абараніўся палескі хлопец ва ўкраінскім горадзе Львове. Пазней дзесяць гадоў кіраваў кафедрай літаратуры ў адной з ВНУ рэспублікі. І ён, як мог, спраўдзіў надзеі і веру свайго Настаўніка.

...Праз гады свеціцца яго заступніцтва... У немаладога пачынаючага паэта пад настрой, у сувязі з філасофскай ацэнкай лёсу нашага народа, напісалася пра Купалу не толькі ўзведзенае ў застойны перыяд у ранг высокаідэйнага і высокамастацкага "Нас на подзвіг акрыляла Слова мужнае Купалы", але і іншае, балюча-праўдзівае і, чамусьці паэту не падумалася, што крымінальнае, — "Дух жабрацкі выпякала Слова строгае Купалы". "Роднапартыец", звышпільны чалавек, лінгвіст прычапіўся да радкоў, дзе толькі мог крытыкаваў іх за безыдэйнасць, нібы не ведаў, што жабрацтва духу ўласцівае ў той ці іншай ступені кожнаму народу, па-рознаму выяўляецца ў розныя гістарычныя перыяды. Нібыта не ведаў інкрымінатар неіснуючага граху мастака, чаму вучыў стары жабрак Коласавага Сымона-музыку, як другая жабрачка "ашчаслівіла" дачушку, асляпіўшы яе пры месячным ззянні. Можа, і не ведаў. Гэта ўжо іншае пытанне. А тады нібы снежная лавіна пачала сыпацца на паэта-няўдаліцу: абмеркаванне злачынства на партбюро, на партыйным сходзе. На чарзе быў партком ВНУ, партыйны сход усяго інстытута, магчыма, парткамісія і бюро райкама... Здзек з чалавека спыніў настаўнік — удзельнік вайны з белафінамі, з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, прашыты аўтаматнай чаргой, сумленны і добры. Ён ведаў, што жабрацтва духу — жывучае. Ён назіраў за ім у застойны час. Ён ратаваў ад яго маладыя чалавечыя розумы, душы. Ён зберагаў нас ад адчаю, ад нявер'я і недаверу, падстаўляў свой плячук не толькі роднаму, жывому слову, каб не змізарнела, каб не згасла, але і тым, хто ім валодаў, да яго цягнуўся, пра яго рупіўся, ім жыў.

...Яшчэ сёння чую яго ціхі, спакойны, поўны болю за дачаснае згасанне голас: "Я сваё жыццё пражыў..." Ён пражыў сваё жыццё ўзнёсла, светла, некрыкліва, ненадрыўна, рашуча-ўпэўнена ў сваёй праваце абаронцы мовы, роду, народу. А як пражыву сваё жыццё я? Як пражывём свае жыцці мы ўсе? Ці захаваем? Ці захаваемся?

...Зоркі ў небе значаць шлях птушкам — у вырай, людскім душам у далёкі неразгаданы Космас, каханым варожаць іх шчаслівы лёс. Зямныя зоркі значаць нам шлях пры жыцці — сумленны, бескарыслівы, дарагі не толькі нам самім, а і іншым людзям. Іду яго сцежкай. Прашу ў Бога, у сяброў, у родных і блізкіх: "Дапамажыце не збочыць з яго, наталіце волю маю гаючай вадой. Развейце па ветры чорныя думкі і мары. Дайце ў рукі сяўню, а не меч, ліру, а не лук".

...Іду наперад. Крочу на ЗОРКУ СВАЙГО НАСТАЎНІКА.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

## На ніве нашага адраджэння

**У пачатку 20-х гадоў Народны камісарыят асветы БССР запрашаў для працы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце навукоўцаў з вышэйшых навучальных устаноў многіх гарадоў. Адным з тых, хто прыехаў у Мінск, быў і Аляксандр Вазнясенскі. Ён перад гэтым скончыў славяна-рускае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта. У 1915—1921 гадах з'яўляўся асістэнтам, потым прыват-дацэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Растоўскага універсітэта. З 1921 па 1927 год Аляксандр Мікалаевіч працаваў дацэнтам БДУ, а затым да 1930 — прафесарам. Як і І. Замоцін, У. Пічэта і іншыя таленавітыя людзі Расіі, А. Вазнясенскі прыехаў на Беларусь не госцем, а з жаданнем рыхтаваць кваліфікаваныя нацыянальныя кадры. Вучачы іншых, сам актыўна далучыўся да працэсаў Адраджэння. Выхаваны на лепшых узорах рускай, найперш класічнай літаратуры, Аляксандр Мікалаевіч па прыездзе ў Мінск зацікавіўся і беларускай літаратурай. У хуткім часе ў часопісах "Полымя", "Узвышша", у "Працах БДУ" былі змешчаны яго артыкулы па тэорыі літаратуры і пытаннях развіцця беларускай літаратуры, тэатра. Выйшлі кнігі "Паэтыка Максіма Багдановіча" (Коўна, 1926), "Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры" (1927), "Паэмы Янкі Купалы. Сюжэтная пабудова і стыль" (1927). Напісаў А. Вазнясенскі і доктарскую дысертацыю ў трох частках "Исследования по истории новой белорусской литературы", якая, на жаль, не была апублікавана і цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Казанскага універсітэта (Расія). Пасля А. Вазнясенскі працаваў у Маскве і Ташкенце, з 1940 па 1947 год — у Казанскім універсітэце, апошнія чатыры гады — дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта. Памёр 16 студзеня 1966 года. 17 ліпеня з дня нараджэння Аляксандра Мікалаевіча спаўняецца 110 гадоў.**

## У вольны час ад працы



**Мая Карпенка працуе настаўніцай пачатковых класаў Расонскай сярэдняй школы. Аднак у вольны час ад працы яе можна сустрэць у касцюме самадзейнай артысткі ансамбля "Свеціца".**
*Фота А. ХІТРОВА,БЕЛТА*

## Узначальваў акадэмічную друкарню

**Выдавец, перакладчык, гісторык Францішак Папроцкі паходзіў з Беларусі. Нарадзіўся ён 275 гадоў назад, 10 чэрвеня 1723 года, памёр, па некаторых звестках, 2 ліпеня 1805-га. Ф. Папроцкі вучыўся ў Полацкай, Слуцкай, Нясвіжскай і Гродзенскай езуіцкай калегіях. З 1753 па 1756 год працаваў выкладчыкам у Варшаве, а з 1757-га жыў у Вільні, выкладаў у Віленскай езуіцкай акадэміі. Праз год становіцца доктарам філасофіі. У 1760 годзе Ф. Папроцкі ўзначаліў акадэмічную друкарню, пачаў выдаваць (адначасова з'яўляўся рэдактарам) першы на тэрыторыі Літвы і Беларусі інфармацыйны штотыднёвік "Літоўскі кур'ер", які выходзіў на польскай мове. У якасці дадатка штомесяц друкаваліся "Літаратурныя весткі". Значная частка матэрыялаў тычылася жыцця на Беларусі. Ф. Папроцкі выдаў працу Г. Галоўкі "Хатнія звесткі пра Вялікае княства Літоўскае", што пабачыла свет у 1760 годзе. Кампіляцыя Ф. Папроцкага "Найбольш значныя войны..." выйшла ў 1763 годзе. Займаўся Ф. Папроцкі і перакладчыцкай дзейнасцю.**

# Зацемкі з левай кішэні

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

●

Я ўпэўнены, нікольві не камплексуючы, што дасягнуў у літаратуры пэўнага ўзроўню *прафесіяналізму*, і мог бы напісаць *прыстойны тэкст* у любым яе жанры, апроч нікому не патрэбных аб'ёмных паэмаў ды раманаў — з-за фізічнай ляноты...

Сумна і роспачна гэта ведаць...

●

Проза — *мнагаслоўная.* Паэзія — *шматзначная.*

●

Ад блізкасці з жанчынай заўжды чакаеш *задавальнення* свайго жадання, а ў рэшце рэшт, усё сканчваецца адным і тым жа — *стратай* жадання...

●

Я доўгі час, з дастаткова празрыстых прычын, шукаў сам у сабе апраўданне таму, што адбываецца ў жыцці і творчасці сумна вядомага і абсалютна таленавітага паэта Анатоля Сыса...

Як бы некаторыя на гэты лёсавы знак нашай літаратуры і "культуры" не рэагавалі, але, хоч не хоч, трэба прызнаць, што такі знак ёсць.

Я высока цаню і люблю Сыса, аднак гэта не пазбаўляе мяне права на засцярогу. Падсвядома я прадчуваю тое, што будзе, але не магу адназначна сфармуляваць тое, што ёсць... Таго, што дзеецца насуперак чалавечай волі, пазбегнуць немагчыма...

І ўсё ж чытаю ва Уладзіміра Салаўёва: "Утверждать, что гениальность совсем ни к чему не обязывает, что гению всё позволено, что он может без вреда для своего высшего призвания всю жизнь оставаться в болоте низменных страстей, это грубое идолопоклонство, фетишизм, который ничего не объясняет, и сам объясняется лишь духовною немощью своих праповедников. Нет! Если гений есть благородство по преимуществу, или высшая степень благородства, то он по преимуществу, и в высшей степени обязывает".

Як бы няма аргументаў для спрэчкі, але недзе глыбока ў душы пытанні застаюцца... як выключэнне з агульнапрынятых правілаў...

●

Спазнаць жанчыну дарэшты, як злётаць у Космас, *далёка* не кожнаму выпадае...

●

За поўнач... А гадзіннік цікае сабе й цікае... Жалеза — што яму час... Ржавее памяць...

●

Упершыню за дзесяць гадоў аб'явіўся на кухні прусак. Мабыць, з суседняй кватэры, што *здаецца* і пераходзяць з рук у рукі розным небеларускім "купі-прадай"...

І вось — першы эмігрант... Пэўна, і там — анархія альбо дыктатура...

●

Зусім выпадкова натрапіў на радыёхвалю "Сталіца", на "пазіцыю" Багадзяжа. Новыя "стихи" Браніслава Спрынчана ў аўтарскім выкананні...

Агаломшаны, слухаў тыя безвыходна-крыклівыя вершыкі, як засмяглы спякотным днём — рэха ў пустым калодзежы...

●

Наўкол — аморфнасць, апатыя... Як вымерла нешта ў людзях...

Самнамбулай — дзень да вечара...

Сяджу апоўначы, бубню сам сабе пад нос: рабы, рыбы, рабі, робы, рабяты, робаты, рабінзоны, рабін зоны...

Спаць трэба... Але хіба з гэтым заснеш?..

●

Нічога не хочацца ўжо... Сядзеў бы перад тэлевізарам — і слухаў бы і слухаў Лукашэнку... аж пакуль не вырасла б "благосостояние всех простых граждан"...

І сядзім — і слухаем... Глядзіш, і той, хто не слухаў, — ужо *сядзіць*...

●

Беларуская літаратура, у пераважнай большасці сваёй, — зямная, нават прыземленая. Гэта ад нашай нацыянальнай ментальнасці — спакою, працавітасці, рахманасці...

Беларусы, у спрадвечнай працы сваёй, схіленыя над зямлёй, бачаць, ведаюць і адчуваюць кожную быліну, кожны зямны корань...

Неба для беларуса — гэта той Космас, дзе ён уяўляе сябе толькі адышоўшым адсюль...

А паэзія зямлі і паэзія неба — непарыўныя, як чалавечы лёс, як нараджэнне і смерць...

Ці зведаем гэтую гармонію ў літаратуры мы, беларусы, пакажа час, які, дасць Бог, змусіць нас бачыць зоркі ў небе, як бульбу ў разоры...

●

Я добра, можна сказаць, падрабязна памятаю, а пры нагаманнях памяці, і ўяўна бачу ўсіх блізкіх мне людзей, што даўно ці нядаўна ляжаць на нашых высокіх вясковых могілках...

Усе яны былі *вельмі жывымі* людзьмі... Я — сярод іх — буду ляжаць *нябожчыкам...*

●

У кожным чалавеку я шукаю дабро і любоў... І расчароўваюся ў сабе, калі не знаходжу...

●

Пустуе перад ваччу кубак з-пад выпітай кавы. Выключаю святло — і ён напаўняецца змрокам і зліваецца з цемрай ночы...

Так чалавек напаўняецца часам — і паглынаецца вечнасцю...

●

Смерць — самы пільны вартаўнік жыцця...

●

Не будзь шчырым дарэшты, не палохай людзей. Ім дастаткова страху ад праўды ўласнага жыцця...

●

Апалове першай ночы — дзікі, немы крык з вуліцы: "Жыве Беларусь!" Ад нечаканасці, засяроджаны ў цішыні на сваім, скалынаюся ўсім нутром... Інстынктыўна адсоўваю фіранку на кухонным акне: а хто там ідзе?!

*Ноч. Вуліца. Ліхтар. Аптэка...*

●

Творчасць — гэта жыццё, а вытворчасць — смерць...

●

Жывём калгасам, паміраем аднаасобна...

●

Беларуская савецкая літаратура напісана плугам, сярпом ды касой... Молатам убітая ў свядомасць... Я — адзін з яе герояў...

●

*Людзям* важна тое, што чалавек ім *кажа*, а не тое, што ён *думае*...

Чалавеку ж важна тое, што ён *думае*, а не тое, што ён *кажа...*

●

*Усе* — людзі, а *ўсё* — Бог...

●

Раіса Баравікова бярэ інтэрв'ю ў Алеся Разанава да яго юбілею. Для свайго часопіса "Алеся", былой "Работніцы і сялянкі"...

Разлілі па кубках чай... Землякі. З аднаго, Бярозаўскага, раёна.

І Рая, з вёскі Пешкі, пачынае задаваць свае незямныя пытанні Алесю, з Сяльца, які адказвае на іх паднебным высокім стылем...

Уражанне такое, нібыта яна толькі што развіталася з Юпітэрам, а ён хвіліну таму строс з сябе венерны пыл...

Няўжо гэта, думаю, тая самая *"дзяўчынка на шары"*, гатовая сёння бясстрашна наткнуцца на *"вастрыё стралы"*?!

Сыходжу. Пакідаю адных. Далей ад граху...

●

Люблю перачытваць першыя кніжкі, асабліва паэтычныя. Нешта ёсць у іх натуральнае, жывое, таямнічае...

Не маю цікавасці да "выбранага" і "збору твораў". Ад іх пахне лясным пілавіннем і макулатурным пылам...

Сёння вось падаравалі ў "ЛіМе" "Азбуку" Анатоля Сербантовіча. Перакладаю з рукі ў руку, з трымценнем гартаю пажоўклыя старонкі...

Маленькая кніжачка маленькага трагічнага чалавека... Якраз для мяне...

●

Што рабіць, калі ўсё баліць?

Пастаяць на высокім балконе... Калі *не адпусціць жыццё*, значыць, — *адпусціць боль...*

●

Я люблю смерць... Адкрыта здраджваю жыццю...

Дачка яшчэ гэтага не разумее і любіць мяне, *грэшнага...*

●

Паэзія — гэта калі *забываешся...*
Проза — калі *ўспамінаешся...*

●

"Мертвая страна. Мертвая старана. Мертвая страна. Все недвижимо, и никакая мысль не прививается".

Васіль Васільевіч Розанаў. Шчыры, мудрэйшы чалавек, як бы, вось, сядзіць перада мной і заклейвае слінай парваную папяроску... Іранічна, прывідна пасміхаецца: што, маўляў, хіба не так? Не паўтарайся, сынок, не будзь папугаем...

●

Нарадзіць чалавека ад любімага мужчыны — вось вяршыня жаночай *творчасці.* Усё астатняе — *"от лукавого"*...

●

Безумоўна, я — не гаспадар. Я нават не ведаю, колькі каштуе хлеб у краме... Праўда, я ведаю, што двухтомнік Мантэня каштуе чатырыста тысяч рублёў...

Аднак гэтая *абазнанасць* засмучае мяне самога. Што ж, у кожнага свае *вопыты*... І дарма яны не даюцца...

●

Так і не скончылі спрэчку ў "ЛіМе" пра літаратурны імідж...

Нехта зірнуў на гадзіннік — шарэла... Усіх чакалі жонкі, дзеці, крамы, цякучыя справы і краны, тэлеэкраны, вячэра, самапіскі, папера...

Надвор'е на вуліцы было сырое, *мележаўскае*... Разышліся сумна і звыкла...

●

Я люблю быць у пакоі з зацягнутымі шторамі на вокнах. Жонка ж трываць не можа, калі шторы зацягнутыя, а на дварэ яшчэ не сцямнела.

Мужчына, у пераважнай большасці, — эгаіст, і хоча пачуваць сабе гаспадаром у, нажытай ім, таемна-творчай прасторы...

Жанчына — наадварот, хоча паказацца звонку, уся будучы ўнутры, — пакрасавацца, памільгаць, пастаяць перад люстэркам альбо перад акном...

Таму за кожнай зацягнутай шторай, як за тэатральнай заслонай, *творыцца*, не да канца вызнаная, *драма* чалавечага жыцця...

●

Усякая вера ёсць *спачуванне* чалавека самому сабе... Ад немачы...

●

Такое дзіўнае адчуванне — нібыта сонца ўжо стамілася грэць людзей, і людзі становяцца ўсё больш *халоднымі...*

●

У артыкуле У. Фірстава ў "Знамени" чытаю: "Ведь даже если все русские в Мордовии запишутся в мордвины, республика все равно не станет полностью мордовской. Почему? Да потому, что в национальной библиотеке книг на мордовском языке менее 1%, потому, что в школах Мордовии мордовский преподается как иностранный, и потому, что мордвам снятся сны на русском... И еще много "потому"..."

Здаецца, здалёку кажуць, а як блізка, і быццам бы іншай мовай, а як зразумела...

●

Э. Ханок у інтэрв'ю "Свободным новостям": "...вы меня приучили к тому, что если я открываю вашу газету и не вижу ехидных заметок про песню "Товарищ президент", мне уже неинтересно читать. Что касается самой песни — я думаю ее сделать в манере Роберта Рождественского. Это не значит, что я поддерживаю или не поддерживаю президента, — я хотел просто нарисовать портрет сильного человека. К сожалению, по тексту пока этого не получилось. Но я ее обязательно доделаю, песня еще займет свое место на отечественной эстраде... Некаторые решили, что я подлизался, и мне дали звание. Извините, но, во-первых, звание я получил до концерта. Во-вторых, я его заслужил как минимум лет десять назад, но только президент восстановил справедливость. И поэтому фраза "президент сделал меня человеком" полностью соответствует действительности..."

Во як!

Праз колькі дзён чытаю ва ўжо згаданым

# Абыпраштоські...

У КАБІНЕТ зазірнуў рэдактар.

— Над чым працуеш?

— Над сабой...

— А пішаш пра што?

— Абы пра што...

Хто там пра раз'яднанасць і некамунікабельнасць? Ды ў нашых панельных шматпавярховіках мы як адно жывое і непадзельнае!

Сусед зверху дзынкнуў чаркай аб пляшку...

Я закусіў...

Знізу зарыпелі дзвярыма прыбіральні...

Пілі доўга. Стаміліся, хоць і смага жнівеньская. Паклікалі суседа. Усё роўна засталася... Гукнулі сяброў з суседняе вёскі. Сталы пад таполю выцягнулі. Так утульна пажоўклае лісце пад нагамі шамаціць. А яна ўсё ёсць... З горада сваякі завіталі. Мы вогнішчы расклалі і пад смажанінку, на снег не зважаючы. А яе, быццам, і не паменела... Куляліся, што і паводку ледзь заўважылі. Узрадаваліся, жывёлу накармілі, посуд здалі, гальштукі пачапілі... Вясной мы не п'ём — вясной мы гарэлку закупляем.

Дык калі пачынаецца XXI стагоддзе? У поўнач са снежня на студзень 2000-га года ці 2001-га? Зрэшты, усё роўна, але ж цікава, калі? Спытаўся ў сяброў-матэматыкаў. Заварыў у галовах такую кашу, што выскачыў са спрэчкі, як ашпараны... І мне гэта трэба было? Але ўсё роўна цікава...

Яму пад сорак. І ён любіць гуляць у словы, як ясельнае дзіця ў кубікі. Вечарам. Калі ўсе пакладліся спаць. Калі дождж сплывае па аконным шкле. Калі ўтульна свеціць начнік, таемна дыхае горад і маўчыць тэлефон, ён гуляе ў словы. І яго калоціць, нібы ў ліхаманцы. А з-пад пяра — непадрыхтаваны цуд. Стыль ясны і зразумелы. Мова простая і яркая. Сказы рубленыя і дакладныя. За кожным абзацам — жыццярадасная энергічнасць разняволенай у творчасці асобы. Інфармацыйная насычанасць. Ніякай вады. Канкрэтыка рэальнасці ў цесных абдымках з пяшчотнай лірыкай. Сапраўдны пасыл... Ад Бога... Людзям... Яго ананімкі ў кожнай канторы чытаюць, як раманы.

Ох, які я паўнацэнны. Жах бярэ. Увесь такі напоўнены! Думкамі, марамі, спадзяваннямі. Верай у вялікае, добрае, разумнае. Любоўю і каханнем да той адзінай — радзімы, жанчыны, мовы, маці. Спачуваннем і міласэрнасцю. Жаданнем ірвануць зараз жа на край свету. Падтрымаць, абнадзеіць, пераліць сваю кроў, прыняць на сябе ўвесь боль пакрыўджаных, кінуцца на амбразуру (няхай маладыя глядзяць ды вучацца!), галадаць з салідарнасці, радавацца, калі там добра, плакаць, калі там кепска... Я такі напоўнены! З гэтым усім ужо проста цяжка жыць. Хто ацэніць?.. Ці адзначаць бюстам на радзіме... Немагчыма... Проста невыносна...

З дрэнных трэба было выбраць лепшага. Вельмі хутка, бо дрэнныя на вачах станавіліся горшымі. А на добрых у нашым калгасе даўно забыліся. Добрыя ўжо не нараджаліся — радыяцыя, працадні, нітраты з пестыцыдамі, гарэлка з пілавіння. Дык вось, з дрэнных трэба было выбраць лепшага. Каб павёў, пераканаў, супакоіў. Выбралі... Навобмацак, па інтуіцыі, у бабулькі спыталі — тая карты раскінула. Выбралі. Высокага, мажнага, свайго ў дошку. Не памыліліся. Супакоіў, пераканаў, павёў... Жывём зараз добра. Іншыя вёскі зайздросцяць. І не бяда, што нас тут двох засталося: ён — лепшы з горшых ды я — ніякаваты. Не бяда... Галоўнае, каб загадваў хтосьці, а я ўжо пастараюся, язык высалапіўшы. Ну ўсё... Няма чаго балаболіць... Іду яму капаць... Хто яго ведае, для чаго, але загад ёсць загад...

Вам ніколі не хацелася схавацца ад усяго ў люстэрка? Раю! Толькі вельмі казытліва, калі сэрца перасокавае з левага боку ў правы. Я, напрыклад, перад тым, як лезці ў раму, заганяю сэрца ў пяты. Нават прыемна. Калі падкочваецца да горла, уражанне, што ты ў бязважкасці. І ляціш, ляціш... Вочы па той бок люстэрка і не глядзелі б...

Як хочацца пайсці ў народ. Палымянай і бездакорнай па аргументаванасці прамовай сабраць на плошчы шматтысячны натоўп, зліцца з ім у адзіным парыванні да светлае долі. Паабяцаць, што праз гадзіну ўсё для гэтага падвязуць. Выбраць з першых радоў самую нахабную і даўгалыгую. Праверыць навобмацак ступень яе пераканансці ў маёй усемагутнасці. А потым адпусціць усіх ненадоўга і ісці дахаты. Стомленым і значным.

І не трэба быць такімі ганарлівымі і меркантыльнымі. Ну і якое дзіва, што з усіх хімічных рэчываў, якія ёсць у чалавечым арганізме, можна зрабіць цвік?! Гэта яшчэ не падстава для самаўлюбёных думак, што мы так патрэбны дзяржаве.

Крыем шыферам сяброўскую дачу. Сусед Жэнька — мясцовы пенсіянер — ляжыць у цяньку і гідліва на нас пазірае:

— І што вы ў горадзе знайшлі такога? А я тут сам сабе пан. Ды плюс на натуральным правіянце. Усе ж магчымыя вітаміны — у самагонцы. А якіх не хапае — тыя ў цыбулі...

Так захацелася ў вёсцы застацца.

Ён так любіў грошы, што яны ў яго не хацелі затрымлівацца. Ён так верыў у светлую будучыню, што не заўважыў, як яна мінула. Ён так марыў праславіцца, што не ведаў, куды схавацца ад ганьбы. Ён так хацеў жыць, што заўчасна памёр... Ці мае рацыю такая празмернасць у жаданнях?

І на могілкавым камені шчыры сябра старанна вывеў: "Памёр ад таго, што жыў"...

Гомель, юнацтва, прапушчаныя тэхнікумаўскія лекцыі па лесанарыхтоўцы. Сядзім, звесіўшы ногі над Сожам. За спінамі — палац Паскевіча. І вялікае камсамольскае жаданне заняцца прыкладным марксізмам — павыганяць адтуль усіх музейшчыкаў і жыць самому. Лянів і бяздумна над кім-небудзь уладарыць, аб'явіць вайну дуракаватаму суседу, па-свойску запрасіць на дзянёк Радзівілаў, з'ездзіць урэшце ў Парыж з пытаннем "А вам, уласна кажучы, што трэба ад нас?" Падацца ў Нямеччыну, вярнуцца яшчэ больш разбэшчаным і ляжаць на канапе, пазіраючы праз вясёлыя вітражы на шэры будзень... Як апантаны, раве рачны буксір. Сож каўтае нашы акуркі. Забіраем пралетарскае з сабой, панскае пакідаем панам, весела шыбуем на заняткі.

Вясной усім праваслаўным мужчынам хочацца стаць крыху мусульманамі. Цяжка захаваць нацыянальнае, калі вакол такія ногі...

Дзе, як не ў піўных чэргах, пацвярджаць халодную дакладнасць філасофскіх аксіём!

Інтэлігент у нясвежай кашулі. Грузчык з суседняга магазіна (увогуле без кашулі). Спалоханы чымсьці дацэнт. Гонкая дама з бітончыкам. Апухлы дзядзька з татуіроўкай на руцэ. Кволы студэнт. Мажны пенсіянер...

— Ёсць, вы ведаеце, у гэтым нейкая сакральнасць. Я б нават мовіў, нейкая прадвызначанасць...

— А піва свежае?

— Так, я ўчора чытала Рэмарка... Вы чыталі Рэмарка?..

— Ды бачыў я вас усіх... Тваю... Ды... Усіх вас яшчэ... Інтэ-лі-генцыя!

— Не, не, наш Брэжнеў — сапраўдны палітык...

— Ды пайшоў ваш Брэжнеў...

— Эх, ну ўчора мы і ўрэзалі!

— А вось Фрэйд на гэты конт...

Шматстайнасць формы і адзінства зместу... Ці наадварот?!

Як лёгка дыхаецца пасля летняга дажджу! Ідзеш лёгкі, падцягнуты упарты ў жаданні застацца сабой. Мускулы напружаныя, душа звініць. Хада пругкая. Вяршыні скараюцца. Немагчымага няма. Адно непрыемна: унізе пад нагамі штосьці пахруствае, гэтак не ў рытм памкненням шамаціць, за пяты чапляецца. Ну, косці чыесьці, падманутыя чужыя спадзяванні, нейкія там неаплачаныя даўгі... Шалупінне, словам. Дрэнна працуюць нашы дворнікі! Дрэнна і неахайна! Тут галоўнае — не зважаць. У кожнага свой шлях. Свой, не чужы. З кроку — імгненна на бег. Лёгкі, жыццясцвярджальны. Твар мэтанакіраваны. Задачы ясныя. Мускулы напружаныя. Душа звініць. Хутчэй! Хутчэй! Як лёгка дыхаецца пасля летняга дажджу!

Жыццярадасная муха села на газетны разварот, хуценька і дзелавіта расставіла ўсе кропкі над "і"... Недастаткова ўважліва яшчэ працуюць нашы карэктары.

Засмяглы ліпень. Цяжка дыхаць. Чадзяць вакол горада тарфянікі. Спёка такая, што паветра рукой мацаеш. Дажджу чакаем з месяц. І раптам пад вечар — хмарка. Маладзенькая, але, па ўсім відаць, — цяжарная навальніцай. Завісла сарамліва, спадніцу падабрала, нясмела паднапнулася — і нічога, акрамя канфузу. Хуценька знікла ў бок Пухавічаў. Там, нягеглая, відаць, і родзіць... Што возьмеш з маладосці...

Тут да нас у рэдакцыю заскочыў адзін з вачыма звар'яцелымі. Уражаннямі падзяліцца. "Ну як жа гэта, браточкі?! Выпраўляць жа трэба! Такое бязладдзе вакол... СНІД паўсюдна, а яны ў спадніцах да вушэй!" Мы яму: "Супакойся. Прысядзь. Вось папера — напішы". А тут яшчэ адзін, а за ім другая: "Як так! Вы што! Сяўба на носе, а пра вывазку арганікі ані слова!" Мы іх усіх за сталы. "Сядзяць пісцы, як гною кучкі..." А самі за дзверы і ў парк Горкага. Вясна!

Сцяг быў пажылы, а таму лянівы і не вельмі вясёлы. Лунаць над горадам у поўную сцяжную моц, разгортваючыся па ветрыку і бяздумна трапечачыся на флагштоку, было млосна. А мабыць, ужо і сорамна. Заблытаны сцяг пазіраў на плошчу, на бурліва-радаснае бел-чырвона-белае хваляванне. Пазіраў паўвокам, паловай зорачкі, схаваўшы серп і молат падпахай. Пазіраў, і яму было страшна. І вельмі захацелася стаць зноў маленькім маладым сцяжком у мурзатай руцэ на ўсё гатовага піянера.

Апрануў здуру стары пінжак. Там затрашчала, тут перакасіла, гузік адскочыў, рукавы ледзь не па локці. А за падшыўкай кішэні — забыты калісьці савецкі рубель. Яшчэ адна нерэалізаваная ў час магчымасць! Разлаваўся. Апрануў новы, надарваў падшыўку кішэні, засунуў туды пяць беларускіх тысяч і супакоіўся. Які сэнс? Ды ніякага!

Малінаўскі дзядзька-перасяленец не выносіць гарадскога транспарту. Да мінскай ТЭЦ-4 (дзе працуе) дабіраецца толькі на "лісапеце". І кіруецца ўздоўж закінутага сада, калгаснага поля, лугу, дзе пастухі, каровы, а іншым разам і камбайн з трактарам... Калі загружаецца з "лісапетам" у ліфт, ціхенька мацюкаецца. Не разбіраецца ў валютным курсе, але дакладна ведае, колькі малака дае зараз кароўка з суседняе вёскі.

Купалы цырка і опернага — як два калены сваавольнага Мінска, які зняможыўся і прылёг адпачыць ля Свіслачы. Калена опернага — запэцканае. Адмыць няма ні сіл, ні жадання.

Схамянуліся чамусьці, на вуліцу рванулі. Прыгледзеліся — не бачна нічога. Прыслухаліся — нікога не чуваць. Крыкнулі — ад цішыні аглухлі... Падалося, мабыць? Пабеглі на ўсялякі выпадак — ілбом у сценку ўрэзаліся. Памацалі — высокая, надзейная... Апрытомнелі, пакурылі, плюнулі ды дахаты пацягнуліся. Строем, вочы схаваўшы, моўчкі.

Вось ужо і гадоў прайшло нямала, але якой свежай і непаўторна пранізлівай застаецца думка: для таго, каб "абыпраштоська" атрымалася стопрацэнтнай, ядранай на выгляд і прыемнай на смак, проста неабходна часцей абы-дзе і абы-як задумацца абы пра што... Словам, шукаць сэнс у абсурдзе, ці абсурд у сэнсе, ці тое і другое адначасова, ці ўвогуле нічога не шукаць, а проста сядзець і пазіраць у акно...

У кабінет зазірнуў рэдактар:

— Зноў абы пра што?

— Ну...

— Глыбінна трэба мысліць. Глыбінна!

Спрабую, але атрымліваецца не вельмі...

**Яўген РАГІН**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Лепшае — вораг добрага, добрае — вораг пасрэднага, пасрэднае — вораг дрэннага, ну ніякага жыцця. Але з дрэннага выступае пасрэднае, з пасрэднага — добрае, з добрага — лепшае, ці ж нельга гаварыць пра дрэннае як пра грунт развіцця? Ці ж не горшым было б прыгожае, каб не тое нягожае?

●

Урокі гісторыі. Як гэта ўсё было? Спачатку быў камень, тады пясок, тады гліна. На гліне ўзнікалі цывілізацыі, пясок іх замятаў, зноў узнікалі цывілізацыі, зноў іх замятаў пясок... Як гэта ўсё будзе? Каменю хапае...

●

Па Мінску ходзяць новыя, з іголачкі, берлінскія аўтобусы. Усе надпісы панямецку (што рабіць у час аварыі і г. д.), адзін наш: "Штраф за безбілетны праезд — нуль-пятая мінімальнай зарплаты". Паспелі-такі.

●

Не выспелі беларускія сосны, непрамысловыя. Колькі іх паспілоўвалі. Затое кожнае лета буяюць пад соснамі грыбы, чырвонагаловыя. Памятае беларуская зямля аб пралітай крыві, дае чырвоныя ўзыходы — зноў, знову і знову. І хоць не значацца грыбы ў Чырвонай кнізе, па звычцы не ўлічваюцца чалавечыя жыцці.

●

Безабароннасць — цнатлівасць і бессаромнасць. Агаленыя, прыкрыліся далонямі, ён — яе, яна — яго-най.

●

Мы з прыродай жывём не ў згодзе. Дык нам горай ці горай прыродзе?




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3481
Нумар падпісаны ў друк 9.7.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 4078/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12